

**Жыве Беларусь!**

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

№ 477 Кастрычнік 2002 г.
Год выданьня 52


# НОВАЯ ДАКТРЫНА ВАШЫНГТОНУ Й ЛУКАШЫЗМ

20-га верасьня сёлета прэзыдэнт ЗША Джордж Буш паслаў Кангрэсу дакумэнт, азагалоўлены "Стратэгія нацыянальнай бясьпекі Злучаных Штатаў". На 33-х старонках пасланьня зроблены выклад прынцыпаў, якімі Злучаныя Штаты будуць кіравацца далей у сваёй замежнай палітыцы. Палітыка гэтая будзе больш напорыстая ў дачыненьні да дзяржаваў з дыктатарскімі рэжымамі. Вашынгтон кладзе канец дасюлешняй гэтак званай палітыцы "стрымваньня й адстрашваньня"(containment and deterrence), якою адзначаўся пэрыяд халоднай вайны, а стане больш ваяўнічым у дачыненьні да дзяржаваў-ізгояў, якія, як сказана ў дакумэнце, "ненавідзяць Амэрыку й усё, што яна сабой прадстаўляе".

У Бушавым пасланьні Кангрэсу сфармуляваная ідэйная аснова далейшай замежна-палітычнай стратэгіі. У ім сказана:"Вялікія сутычкі 20-га стагодзьдзя паміж свабодай і таталітарызмам скончыліся станоўкай перамогай сілаў свабоды й адзінага дзейснага мадэлю нацыянальнай удачы: свабода, дэмакратыя й вольнае прадпрымальніцтва. У 21-м стагодзьдзі толькі дзяржавы, што адданыя справе аховы асноўных правоў чалавека ды гарантыі палітычнай і эканамічнай свабоды здолеюць вызваліць патэнцыял свайго народу ды запэўніць ягоны далейшы дабрабыт. Людзі ўсюды хочуць гаварыць тое, што яны думаюць; пастанаўляць, хто будзе імі кіраваць; маліцца, як ім падабаецца; адукаваць сваіх дзяцей - хлапоў і дзяўчат; мець уласнасьць і цешыцца пладамі свае працы. Гэтыя каштоўнасьці свабоды слушныя й праўдзівыя для кожнага чалавека, у кожным грамадзтве - і абавязак бараніць гэтыя каштоўнасьці ад ворагаў зьяўляецца агульным прызначэньнем волялюбных народаў па цэлай зямлі".

Хоць сучаснае міжнароднае напружаньне сканцэнтраванае вакол Іраку й палестынска-ізраільскага канфлікту, вышэй выказаныя ідэйныя прынцыпы маюць беспасярэднае дачыненьне й да Беларусі, дакладней кажучы, да лукашэнкаўскага рэжыму. Рэ*жым гэты адзначаецца* якраз поўнаю пагардаю да прынцыпаў, выказаных у пасланьні амэрыканскага прэзыдэнта: да неад'емнага чалавечага права гаварыць (і пісаць), што думаеш; свабодна выбіраць сваё кіраўніцтва; маліцца, як падабаецца; мець уласнасьць і цешыцца пладамі свае працы. Факты й здарэньні апошніх гадоў у Беларусі - забойствы палітычных апанэнтаў рэжыму, зачыненьне незалежных органаў друку на аснове фальшывых абвінавачаньняў, дыскрымінацыйнае рэлігійнае заканадаўства кішэннага "парляманту", непасільныя падаткі на прыватных прадпрымальнікаў, арышты й штрафы за абсалютна нармальныя для свабоднага грамадзтва ўчынкі - сталіся найбольш тыповымі й трывалымі адзнакамі лукашызму.

Лукашэнкава панаваньне над беларускім грамадзтвам падпадае якраз пад тую катэгорыю рэпрэсійных рэжымаў, на змаганьне зь якімі будзе скіраваная замежная палітыка Вашынгону. Адным зь мерапрыёмстваў у гэтым змаганьні павінна стацца прыняцьце разгляданага цяпер у Палаце Прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША законапраекту "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі 2002 году" (Belarus Democracy Act of 2002). Пільны абавязак беларуска-амэрыканскае грамады - выказаць поўнае падтрыманьне гэтаму законапраекту зваротамі, груповымі й індывідуальнымі, да сваіх кангрэсмэнаў і сэнатараў.

# КААЛІЦЫЯ

## Ў АБАРОНУ ДЭМАКРАТЫІ Й ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ


*9 River Road,*
*Highland Park, NJ 08904*
*Tel.: (732) 254-6527; Fax: (732) 254-8951*
*T-mail: a.silwano@verizon.net*
*Прэс-рэліз, 9 верасьня 2002 г.*


На 9-га верасьня сёлета прыпадае сумная гадавіна сфальшаваных прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, праз якія Аляксандар Лукашэнка працягнуў сваё дыктатарскае кіраваньне яшчэ на пяць гадоў. Мінулы год паказаў, што сытуацыя ў Беларусі працягвае пагаршацца. Справы аб зьнікненьні палітычных апанэнтаў рэжыму так і засталіся нераскрытымі. Грамадзкім групам ставяцца перашкоды ў іхнай дзейнасьці. Арышты й зьняволеньне мірных пратэстуючых грамадзянаў адбываліся амаль штодзённа. Незалежныя сродкі масавай інфармацыі цэлы час перасьледаваліся або прымусова зачыняліся. Усе гэтыя адмоўныя зьявы адбываліся не зважаючы на вострую крытыку дзейньняў Лукашэнкі ў вольным сьвеце, як афіцыйную, гэтак і неафіцыйную, і асабліва з боку Злучаных Штатаў Амэрыкі.

Між тым паказальна, што аніводнага слова неўхваленьня дзейньняў рэжыму Лукашэнкі ня выйшла з боку ўраду Расеі. Выглядае на тое, што Крэмаль у сваёй палітыцы ў дачыненьні да Беларусі кіруецца прынцыпам: "чым горш, тым лепш". І сапраўды, брутальныя мэтады Лукашэнкі й ягонае занядбаньне беларускай эканомікі як найлепей служаць мэтам Масквы - узмоцніць у Беларусі імкненьне да яднаньня з "рэфармаванай і дэмакратычнай" Расеяй. Гэтая стратэгія зрабілася асабліва відавочнай 14-га жніўня 2002-га году, калі прэзідэнт Расеі Пуцін выступіў з прапановамі пра ўваходжаньне Беларусі ў склад Расейскай Фэдэрацыі. Ці ня ёсьць гэта нішто іншае, як зладзейская дамова начальніка ад КГБ у Крамлі са сваімі агентамі ў атачэньні Лукашэнкі, каб зьліквідаваць незалежнасьць Беларусі?

З увагі на ўсё тое, што адбылося ў Беларусі з часу, як Аляксандар Лукашэнка пераабраў сам сябе на другі тэрмін прэзідэнцтва, мы заклікаем Урад ЗША працягваць свой ціск на афіцыйныя колы Менску ў абарону дэмакратычных свабодаў суверэннай і незалежнай Беларусі. Мы моцна ўхваляем праект закону, высунуты кангрэсмэнам Крыстафэрам Сьмітам у падтрымку дэмакратыі ў Беларусі. І мы заяўляем аб сваім намеры надалей працягваць свае высілкі дзеля таго, каб беларускі народ заняў свой належны пасад сярод іншых вольных народаў усяго сьвету.

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СЬВЕДАМАСЬЦЬ

Узровень жыцьця людзей як супольнасьці залежны ад дачыненьняў паміж асобаю (асобным чалавекам) і грамадзтвам. Дачыненьні паміж асобаю і грамадзтвам вымяраюцца супольнай сьведамасьцю.

Гістарычна чалавечая супольнасьць асэнсавала і прайшла праз розныя віды сьведамасьці й захавала яе рэлікты. Напачатку была сьведамасьць, дадзеная прыродай - усьведамленьне віду (людзі - і ўсё астатняе). Потым - родаваплемянная. Затым, з развіцьцём цывілізацыйнага працэсу (ён пачаўся тады, калі людзі сталі жыць асела і працаваць на зямлі), узьнікае этнічная (тутэйшая) сьведамасьць. Супольныя інтарэс і адзінства вымяраліся ў гэты час па тэрыторыі, па звычаях (культуры) і па мове.

Наступны этап - народная сьведамасьць. Яна зьвязаная са стварэньнем дзяржавы й дзяржаўнага віду ўлады. Супольнае адзінства і дачыненьні людзей асэнсоўваліся на ўзроўні забясьпечаньня агульных сацыяльна-культурных інтарэсаў.

У XVIII-XIX стагодзьдзях цывілізацыйны працэс прывёў да зьяўленьня нацыянальнай сьведамасьці, калі супольнасьць гуртуецца на аснове нацыянальнае ідэі, якая ўбірае ў сябе ўсе ранейшыя дасягненьні этнічнага духу, абагульняе інтарэсы й выступае ў якасьці нацыянальнай ідэалёгіі. Рэалізацыяй нацыянальнай сьведамасьці ёсьць вольная нацыянальная дзяржава, якая забясьпечвае ўсебаковае існаваньне і развіцьцё нацыі й кожнага асобнага чалавека. Гэта стан сьведамасьці, у якім знаходзіцца зараз цывілізаваны сьвет.

Нацыянальная сьведамасьць мае тую асаблівасьць, што зьяўляецца прыярытэтнай перад сацыяльнай сьведамасьцю і перад усімі астатнімі. Менавіта гэтая асаблівасьць забясьпечвае моц і існаваньне нацыянальнай дзяржавы й уласна самой нацыянальнай сьведамасьці, бо зьяўляецца яе найгалоўнейшаю рысаю.

На практыцы гэта выглядае так, што кожны грамадзянін нацыі ўсьведамляе агульны інтэрас нацыі як свой асабісты, ён разумее лучнасьць інтарэсаў і абараняе іх.

У чалавека ненацыянальнай сьведамасьці (альбо дэнацыяналізаванага) асабісты інтарэс і інтарэс агульнанацыянальны (грамадзкі, дзяржаўны) існуюць як бы незалежна. Такі чалавек дбае толькі пра свой інтарэс і, часта бывае, насуперак агульным інтарэсам нацыі.

Людзі нацыянальнай сьведамасьці заўсёды аддаюць перавагу агульнанацыянальным каштоўнасьцям перад сацыяльнымі, палітычнымі, канфэсійнымі, групавымі, эканамічнымі і г.д. Гэтая асаблівасьць нацыянальнай сьведамасьці трымае ў моцы й у адзінстве і такую, напрыклад, маналітную нацыянальна зьядналую краіну, як Польшча, і поліэтнічную эміграцыйную Амэрыку. Нацыянальная сьведамасьць грамадзтва дае магчымасьць бязь цяжкасьцяў праводзіць узгодненую, агульнанацыянальную ўнутраную і зьнешнюю палітыку, вырашаць шэраг грамадзкіх задачаў.

Напрыклад, ні ў польскіх кансэрватараў, ні ў сацыялістаў, ні ў былых камуністаў не ўзьнікае думкі дыскутаваць пра незалежнасьць Польшчы ці пра дзяржаўнасьць польскае мовы, ці пра неабходнасьць польскай школы, ці аб прызнаньні нацыянальнага гербу ці сьцягу і г. д. Нацыянальная сьведамасьць ствярае каштоўнасьці, бясспрэчна агульныя для ўсяго грамадзтва. Ёсьць агульнанацыянальная неабходнасьць быць Польшчы ў НАТО - і ўсе польскія партыі праводзяць узгодненую палітыку, незалежна ад перамены ўлады, зьмены ўраду і г. д.

Тое-ж самае - ў ЗША. Нацыянальныя інтарэсы, нацыянальная ідэя, амэрыканскія каштоўнасьці - вышэйшыя за ўсе ўнутраныя, расавыя, сацыяльныя, канфэсыйныя і іншыя інтарэсы, і нават канфлікты. Любімае выслоўе амэрыканскіх прэзыдэнтаў: "Думайце не пра тое, што Амэрыка зрабіла для вас, а што вы зрабілі для Амэрыкі".

Грамадзтва, якое ёсьць на ўзроўні нацыянальнай сьведамасьці, дзе існуе нацыянальны прыярытэт у паводзінах асобы, такое грамадзтва можа самаісnаваць, яно самадастатковае, яно здольнае на самакіраваньне і можа абысьціся без улады, устаноўленай зьверху ці звонку (абсалютызм, манархія, насьледнае каралеўства, дыктатура, імпэрыя, каляніяльнае праўленьне і г.д.).

Грамадзтва на ўзроўні нацыянальнай сьведамасьці выклікае новы тып улады - дэмакратыю, ствярае нацыянальную дэмакратычную дзяржаву. Гэта натуральны стан нацыянальнай дзяржавы, якая іманэнтна (унутрана) імкнецца да дэмакратыі. Усялякія адхіленьні ад дэмакратыі (дыктатура, аўтарытарызм, аўтаркія і г.д.) асэнсоўваюцца як неадлавед-

*Працяг на бач. 2*

***З жыцьця ў Пэрце (Аўстралія)***

# ХРОНІКА

У нядзелю 7-га ліпеня пасьля службы Божай, якую адправіў а. Уладзімер, прыбыўшыя сабраліся ў Грамадзкай Хаце, каб адзначыць 120-я ўгодкі народжаньня вялікага песьняра і прарока беларускага нацыянальнага адраджэньня Янкі Купалы. Урачыстасьць пачалася вітаньнем прысутных і паведамленьнем, што не прыбыў дакладчык. Аднак ён не забыўся перадаць касэту, на якой запісаў даклад. Касэтны даклад цягнуўся палову гадзіны, і ўсе былі задаволеныя зь яго.

Пасьля дакладу адбыўся пачастунак, у часе якога адбыліся разважаньні аб бяспраўным падпарадкаваньні беларускай маёмасьці ў Лёндане, Ангельшчына. У выніку гутаркі аб гэтым некалькі асобаў падпісалі пратэсты і выслалі ў Ватыкан.

У нядзелю 11-га жніўня пасьля службы Божай (дарэчы, яна цяпер заўсёды адпраўляецца ў Беларускай Грамадзкай Хаце, дзе дзеля службы зробленая дабудова, што развязала нашыя рукі ад безупыннага пазычэньня ў англіканаў) сабраліся сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі, каб правесьці чарговую гадавую зборку.

Па прывітаньні й падзяцы прысутным за прыбыцьцё і выкананьне грамадзкага абавязку старшыня ўступаючай управы Міхась Раецкі (малодшы) пачаў зборку з наступнай праграмай: адкрыцьцё, справаздачы ўступаючай управы, выбары новай управы.

Агульную справаздачу зь дзейнасьці даў старшыня ўступаючай управы, а затым скарбнік-сакратар Алесь Мароз (малодшы) даў дакладную справаздачу з фінансавага стану арганізацыі, дабудову і кошты зьвязаныя зь ёю, сплата пазычкі ў банк і сучасны стан касы Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі. Па выслухваньні справаздачаў у знак удзячнасьці ўступаючую ўправу ўзнагародзілі бурнымі воплескамі ды пачалі прасіць, каб яе сябры ўзялі кіраўніцтва Аб'еднаньнем на наступную кадэнцыю, што ў сапраўднасьці адбылося. У новую ўправу ўвайшлі: Міхась Раецкі (малодшы), старшыня; Міхась Ёлаб, заступнік старшыні; Алесь Мароз (малодшы), сакратар-скарбнік; Марылька Ёлаб, сакратар-скарбнік; Міхась Раецкі (старэйшы), вонкавыя сувязі й радыё; Марыя Мароз, распаўсюджваньне прэсы.

Пасьля пажаданьня новай управе посьпехаў у працы адбыўся пачастунак, за прадрыхтаваньне якога шчыра дзякуем матушцы Ірэне, Марыі Мароз, Марыльцы Ёлаб і Сьвятлане Ніжнік.

***Міхась РАЕЦКІ (старэйшы)***

***Кэнінгтон, Аўстралія***

***З жыцьця ў Саўт-Рывэры***

# З НОВЫМ ДУШПАСТЫРАМ

Новы настаяцель прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай а. Стаўрас Русас энэргічна ўзяўся за ажыўленьне царкоўнага жыцьця як унутры, гэтак і навонкі. Ён пачаў выдаваць штотыдня невялікі бюлетэнь, у якім зьмяшчае патрэбную прахаджанам інфармацыю. Айцец Стаўрас рыхтуецца аднавіць заняткі ў суботняй школцы для дзяцей, стараецца прыцягнуць моладзь да ўдзелу ў царкоўным хоры, якім цяпер кіруе новы рэгент сп. Валянтын Дзямешчык.

Ужо двойчы а. Стаўрас даваў інтэрвію мясцовым газэтам пра дзейнасьць беларускай грамады , інфармуючы пры гэтым чытачоў і пра Беларусь.

Прыхаджане царквы Сьв. Еўфрасіньні пад кіраўніцтвам свайго настаяцеля ўзялі ўдзел 11-га верасьня ў адзначэньні ўладамі гораду першых угодкаў тэрарыстычнага нападу на Амэрыку. У царкве Сьв. Еўфрасіньні была адслужаная паніхіда. Прыхаджане пайшлі працэсіяй да месца ўрачыстага сходу на цэнтральнай вуліцы гораду ля помніка ахвярам Другой сусьветнай вайны. Сабралася там больш за тысячу гараджанаў. Айцец Стаўрас быў адным з бласлаўляльнікаў грамады ад імя свайго прыходу. У інтэрв'ю з карэспандэнтам мясцовай газэты ён сказаў, што вялікая частка ягоных прыхаджанаў - людзі, якія перажылі камунізм ды жахі Другой сусьветнай вайны і добра разумеюць перажываньні ахвяраў тэрарызму. "У нашай царкве, - сказаў ён, - мы молімся за нашу Радзіму Беларусь, якая знаходзіцца ў Эўропе, але мы таксама молімся за Прэзыдэнта Буша й Злучаныя Штаты Амэрыкі.

**(ЯЗ)**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СЬВЕДАМАСЬЦЬ

*Працяг з бач. 1*

ньня, і нацыянальнае грамадзтва імкнецца да аднаўленьня дэмакратычнай раўнавагі.

* * *

Нацыянальная сьведамасьць фармавалася ў змаганьні з імпэрыяй і імпэрскай ідэалёгіяй. Імпэрская сьведамасьць заўсёды выяўляла інтарэсы групы ўлады, была таталітарнай ідэалёгіяй і, як правіла, абапіралася на нейкі адзінанародны ўніфікацыйны прынцып, накінуты зьверху ці звонку.

Імпэрыя - гэта прынцып дзяржаўнай арганізацыі ўлады, які ўзьнік і мог існаваць на ўзроўні народнай сьведамасьці. Разьвіцьцё нацыянальнай сьведамасьці народаў прывяло да распаду імпэрыяў.

Аднак распад імпэрскага абсалютызму не заўсёды прыводзіў да поўнай ліквідацыі імпэрыі. Імпэрская ідэалёгія (адзіны ўніфікацыйны прынцып улады) аказвалася жывучай, калі пераплаталася з нацыянальнымі інтарэсамі. Гэта прыводзіла да новых формаў таталітарызму, да ўнутраных і зьнешніх канфліктаў, станавілася прычынаю войнаў.

Эўрапейскія нацыі й эўрапейскае нацыянальнае думаньне перажылі дзьве вялікія нацыянальныя рэвалюцыі ("вёсны народаў"). Першую - у сярэдзіне XIX-га стагодзьдзя (1848-1849-я гады), якая была задушаная імпэрыямі, і другую - у першай чвэрці XX-га стагодзьдзя, якая завершылася перамогаю нацыяў і абнаўленьнем мапы Эўропы (пасьля І-й Сусьветнай вайны), крахам эўрапейскіх і сусьветных імпэрыяў (акрамя Расеі).

Заўважым, што тыя народы, якія стварылі ў той час нацыянальныя дзяржавы, дамагліся незалежнасьці й прайшлі потым перыяд нацыянальна-дзяржаўнай стабілізацыі (гэта, у сярэднім, 20-25 гадоў - адно пакаленьне), тыя народы поўнасьцю ўключыліся ў сыстэму эўрапейскай дэмакратычнай цывілізацыі й забясьпечылі незваротнасьць нацыянальнага працэсу існаваньня.

Тыя нацыі, якія потым неўзабаве згубілі дзяржаўную незалежнасьць і апынуліся ў таталітарнай імпэрыі - бальшавіцкай Расеі, страцілі гістарычны час, не прайшлі абавязковага пэрыяду нацыянальна-дзяржаўнай стабілізацыі і, што страшна, - сталі аб'ектам генацыду і нацыянальнага вынішчэньня. Нацыянальна-псыхалягічнае і ідэйна-нацыянальнае разьвіцьцё іх было затармажанае.

Найбольш пацярпелі ў гэтым сэнсе беларусы й украінцы. Вынішчалася, перш за ўсё, нацыянальная сьведамасьць і яе актыўныя носьбіты. За некалькі пакаленьняў перажытага расейска-бальшавіцкага таталітарызму і масавага зьнішчэньня ідэйна-нацыянальная самаідэнтыфікацыя грамадзтва гэтых краінаў (асабліва Беларусі) была адкінутая на рэліктавы ўзровень этнічна-тутэйшай сьведамасьці. Але самае страшнае тое, што за няпоўнае стагодзьдзе гвалту, хлусьні й фальшывых дачыненьняў адбылася масавая люмпэнізацыя сьведамасьці вялікай колькасьці людзей. Менавіта распаўсюджанасьць люмпэнізаванай ("савецкай") сьведамасьці стала адным з галоўных чыньнікаў выбраньня Лукашэнкі на прэзыдэнта Беларусі.

* * *

Аднак сітуацыя, у якой апынулася беларускае грамадзтва ў выніку 73-х гадоў расейска-бальшавіцкай акупацыйнай палітыкі, у прынцыпе падлягала выпраўленьню пасьля дасягненьня дзяржаўнай незалежнасьці. Нацыя магла адрадзіць і дзяржаву, і культуру, і стабілізаваць нацыянальнае грамадзтва. Дзеля гэтага трэба было разьвівацца паскорана ў спрыяльных умовах, і перш за ўсё - аднавіць нацыянальную эліту, беларускую школу і нацыянальную сыстэму адукацыі, накіраваныя на разьвіцьцё нацыянальных інтэлектуальных магчымасьцяў і фармаваньне беларускай нацыянальнай сьведамасьці.

У 1994-м годзе, пасьля выбраньня Лукашэнкі прэзыдэнтам і ўсталяваньня прамаскоўскага рэжыму ў Беларусі, магчымасьці нацыянальнага Адраджэньня і стабілізацыі, практычна, зведзеныя да мінімуму (і прадаўжаюць зьмяншацца).

Беларусь зараз перажывае адну з самых небясьпечных калізіяў сваёй гісторыі (прытым значная частка грамадзтва таго не ўсьведамляе), калі вырашаецца лёс далейшага існаваньня Беларускай нацыі.

Тым ня менш, пры наяўнасьці моцнай нацыянальнай эліты, нацыянальнай ідэі й нацыянальнага руху, супадзеньне розных пратэстных чыньнікаў (якое паступова нарастае) магло-б прывесьці да выпраўленьня становішча.

* * *

Падсумоўваючы сказанае, зьвяртаю ўвагу на істотныя акалічнасьці. Пасьля распаду СССР Беларусь мела лепшыя эканамічныя, сацыяльна-матэрыяльныя і навукова-тэхнічныя перспэктывы незалежнага разьвіцьця, чым іншыя краіны-суседзі ва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе, што вызваліліся з-пад расейскага камунізму. Але ў параўнаньні зь імі, у Беларусі была моцна дэфармаваная нацыянальная сьведамасьць насельніцтва. Нават адукаваныя савецкія беларусы, людзі інтэлектуальнай працы, у большасьці, не разумелі й не арыентаваліся ў прасьцейшых пытаньнях нацыянальна-культурнага існаваньня (якія ў іх, да таго-ж, не былі прыярытэтнымі).

Такое грамадзтва не магло эфэктыўна супрацьстаяць антыбеларускай палітыцы й хутка страціла свае перавагі. І нават незалежнасьць дзяржавы апынулася пад пагрозаю.

У той-жа час суседзі, будучы больш нацыянальна салідарызаванымі, пайшлі наперад у сваім нацыянальна-дзяржаўным разьвіцьці й знаходзяцца ўжо на парозе Эўропы. Вырашальным чыньнікам стала нацыянальная сьведамасьць грамадзтва.

Зьвяртаю ўвагу таксама, па якіх накірунках вядзецца сучасная вайна супраць Беларусі. Першая антыбеларуская акцыя рэжыму - зьнішчэньне нацыянальных сымбаляў. Потым - ліквідацыя дзяржаўнай функцыі беларускай мовы, ліквідацыя беларускай школы, адукацыі й асьветы на беларускай мове, кантроль над інфармацыяй і пераклад яе на чужую мову, разбурэньне беларускага мастацтва і літаратуры, разбурэньне беларускай фундамэнтальнай навукі, стварэньне ўмоваў для маральнай дэградацыі насельніцтва (адкрыцьцё ў Беларусь чужой разбуральнай інфармацыйнай прасторы, чужога разбуральнага тэлебачаньня, запрашэньне антымастацкіх гастрольных групаў, цэнавая стымуляцыя п'янства, дыскрымінацыя і нецярпімасьць да беларушчыны ў сыстэме дзяржаўных установаў і г.д.).

Дэнацыяналізаваная бюракратыя і частка насельніцтва лёгка паддаюцца такой ненармальнай палітыцы, часам нават не здагадваючыся, што існуюць у сытуацыі абсурду. Калі сказаць коратка, то ўся стратэгія антыбеларускіх дзеяньняў і ўся сыстэма разбурэньня накіраваная на тое, каб беларусы не разьвіваліся, як нацыя, каб не ўсьведамлялі чалавечую і нацыянальную годнасьць, каб ня мелі нацыянальнай сьведамасьці. У выніку такой палітыкі непрыяцелі Беларусі ствараюць і пляніруюць грамадзтва суіцыду, нацыянальнага самазьнішчэньня.

Аднак ня трэба думаць, што беларускае грамадзтва ў выніку акупацыйнай палітыкі ўжо цалкам нацыянальна задушанае і ня здольнае да нацыянальнага Адраджэньня.

Для нармальнага разьвіцьця нацыянальнай культуры й фармаваньня асобы неабходныя нацыянальная асьвета, адукацыя і спрыяльная дзяржаўная палітыка. Цяпер гэта ліквідаванае. Аднак, ня гледзячы ні на што, беларускае грамадзтва знаходзіцца ў значна лепшым ідэйным і нацыянальным стане, чым яно было ў канцы 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя, напярэдадні стварэньня Беларускага Народнага Фронту і напярэдадні аднаўленьня незалежнасьці. Перажытае - не зьнікае бясьсьледна.

Грамадзтва - гэта ня простая сума людзей і не натоўп. Перажываемы сацыяльна-палітычны вопыт, які асэнсоўваецца часткай беларусаў, незалежна ад афіцыйнай прапаганды й хлусьні, можа аказацца нядрэнным нацыянальным унівэрсытэтам, і тады загоншчыкі народа загоняць у пастку толькі самых сябе.

Цяпер акурат настае вызначальны час. Антыбеларускія заявы прэзыдэнта Расеі Пуціна, зробленыя ім у жніўні гэтага года, паказваюць, што расейскае кіраўніцтва лічыць ужо сваю чорную справу зробленаю і паводзіць сябе так, нібы беларускі народ не існуе. Адсюль той грубы цынізм і адкрытая непавага да беларускай нацыі. Беларусам даюць зразумець, што лічаць іх за нішто, не за народ, а за сьмецьце, і таму кажуць у твар: мы вас анэксуем, ліквідуем, забяром вашу зямлю і краіну, падзяліўшы на сем частак. Выбірайце: альбо адразу, альбо праз "саюз" і "дружбу навек".

У нацыянальна разьвітай краіне такая заява выклікала-б узрыў грамадзкага абурэньня і, нават, - спыненьне дыпляматычных адносінаў паміж дзяржавамі, паколькі гэта ёсьць пагроза вайны. У Беларусі нічога такога не назіраецца, бо краіна ўжо знаходзіцца ў стане ўнутранай прамаскоўскай акупацыі, а невысокі ўзровень нацыянальнай сьведамасьці і прадажнасьць элітаў не дазваляе адэкватна ацаніць небясьпеку.

І тым ня менш, няма прычыны да роспачы. Становішча ня ёсьць аж такім дрэнным. Вопыт, які перажывае беларускае грамадзтва, вельмі істотны. Асэнсаваньне і рэакцыя высьпяваюць у беларусаў павольна, але падзеі сьпеюць і не ў карысьць рэжыму акупантаў. Беларуская ідэя жыве, і разьвіваецца ўзьняты Беларускі Сьцяг. Пад яго павевы хутка стане мноства людзей, і не пазнаць будзе нашу ціхую Беларусь. Няхай-жа мацнеюць шэрагі, і набліжаецца Сьветлы час.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# Беларусь за месяц

## ДЗЕНЬ ВАЙСКОВАЕ СЛАВЫ

Сьвяткаваньне Дня Вайсковае Славы, першага сьвята, што адчыняе палітычную восень, сёлета не сабрала шмат народу. Гэтым разам на канцэрт, зладжаны Беларускім Народным Фронтам, што адбыўся на плошчы Бангалёр, прыйшло каля 100 чалавек.

На пляцоўцы перад Нацыянальнай акадэміяй навук Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя БНФ зладзіла мітынг, там таксама было ня больш за 100 чалавек.

Сьвята Вайсковае Славы, якое адзначаюць ў гонар перамогі над маскалямі пад Воршаю, у першыя гады незалежнасьці адзначалі масава і весела.

## ПЕРАСЬЛЕД ПРЭСЫ

Скарга Паўла Жука, галоўнага рэдактара "Нашай Свабоды", пададзеная на вырак суда, прынятая на карысьць старшыні Камітэта дзяржкантролю Анатоля Тозіка, была пакінутая бязь зьменаў. Такім чынам газэта і журналіст Міхаіл Падаляк мусяць агулам сплаціць пазоўніку 105 млн. рублёў штрафу за маральную шкоду і зьняваґу асобы пазоўніка.

Павал Жук заявіў, што спыняе змаганьне зь "вятракамі" й пачынае працаваць над новым праектам пад назваю "Время". Газэта мусіць выдавацца раз на тыдзень, выходзіць па панядзелках на 24-х бачынах. Першым намесьнікам галоўнага рэдактара будзе Міхаіл Падаляк.

Між тым, старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі Леанід Козік зьвярнуўся ў Міністэрства інфармацыі з просьбаю зачыніць самую масавую недзяржаўную газэту Беларусі "Народная Воля". Падстава - няправільнае асьвятленьне на старонках газэты пазачарговага зьезду ФПБ.

## АКЦЫЯ АПАЗЫЦЫІ

Прадстаўнікі беларускіх апазыцыйных партыяў (БНФ, АГП, Аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі, Беларускай партыі працы, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, ПКБ, лібэрал-дэмакраты) 23-га верасьня на сваім супольным паседжаньні вырашылі правесьці ў лістападзе сумесную акцыю, накіраваную супраць зьбядненьня народу і ў падтрымку сувэрэнітэту краіны. Пакуль назву акцыі ня вызначылі, але, кажуць, што абавязкова будуць прысутнічаць наступныя лозунгі: "Незалежнасьць", "Дабрабыт", "Без дыктатуры". Да іх мяркуе далучыцца "Хартыя-97", якая спачатку жадала правесьці аўтаномна чарговы маршпратэст "За лепшае жыцьцё", але, відаць, перадумала.

Мяркуецца, што сумесная акцыя апазыцыі пройдзе 17-га лістапада і пачнецца а 12-й гадзіне, стартаваўшы з плошчы Якуба Коласа.

## АКЦЫЯ КХП БНФ

29-га верасьня ў сквэры Янкі Купалы сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ (больш за 100 чалавек) зладзілі акцыю ў абарону незалежнасьці Беларусі. Яны трымалі плякаты "Ніякіх саюзаў зь імпэрскай Расеяй!", "Беларуская салідарнасьць - наш супраціў расейскай акупацыі!", "Расейскія ваенныя базы - прэч зь Беларусі!"

На мітынгу быў зачытаны зварот лідэра КХП БНФ Зянона Пазьняка, які заклікаў ствараць камітэты абароны Беларусі ад расейскае агрэсіі, а ўдзельнікі акцыі прынялі рэзалюцыю, у якой выказалі пратэст супраць агрэсіўных дзеяньняў расейскага кіраўніцтва адносна Беларусі.

Пасьля заканчэньні мітынгу пачаўся традыцыйны ў такіх выпадках хапун. Былі затрыманыя выконваючы абавязкі кіраўніка КХП БНФ у Беларусі Юры Беленькі, прэс-сакратар Валеры Буйвал, актывісты партыі Уладзімер Плотнікаў і Канстанцін Кашэль.

## ЗЬБІЛІ КАРАЛЯ

13-га верасьня позна ўвечары невядомыя злодзеі зьдзейсьнілі напад на аднаго зь лідэраў беларускіх сацыял-дэмакратаў Аляксея Караля. Яго зьбілі ды скралі дарожную торбу, грошы й пашпарт. Аляксей Кароль у той дзень вяртаўся зь Вільні, дзе знаходзіўся па запрашэньні летувіскіх сацыял-дэмакратаў. У той-жа дзень вярталася разам з Каралём зь Вільні лідэрка Аб'еднаных сацыял-дэмакратаў і жаночай партыі "Надзея" Валянціна Палевікова. Ля пад'езду дому, дзе яна жыве, яе таксама чакалі невядомыя. Аднак выратавала тое, што жанчына ішла з сынам і ягонымі сябрукамі.

## ПРЫСУД ІВАШКЕВІЧУ

Суд доўжыўся два дні: 11-га і 16-га верасьня. Пракурор прасіў тры гады абмежаваньня свабоды ("хіміі"), а судзьдзя даў два гады "хіміі". Віктар Івашкевіч у інтэрв'ю журналістам заявіў, што не прызнае свае віны:"За выказаные слова крытыкі на адрас прэзыдэнта, грамадзянін, можа быць рэпрэсаваны". Згодна з амністыяй, прысуд мусіць быць зменшаны на адзін год.

А мы мусім запомніць імёны "герояў працэсу". Судзьдзю завуць Уладзімер Кобышаў, пракурор - Канстанцін Чагін.

## АДМОВА МІНЮСТА

Міністэрства юстыцыі адмовілася прызнаць IV зьезд Беларускай партыі жанчын "Надзея", які адбыўся 24-га жніўня. На тым зьезьдзе было прынятае рашэньне аб самароспуску партыі й уваходжаньні яе сяброў у новую Аб'еднаную сацыял-дэмакратычную партыю (АСДП). У заяве Міністэрства юстыцыі адзначаецца, што "прымаючы рашэньне аб ліквідацыі партыі, дэлегаты "Надзеі" перавысілі свае паўнамоцтвы".

Такім чынам пад пагрозаю непрызнаньня зьезд, які прыняў рашэньне аб аб'еднаньні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Аляксея Караля, "Надзеі" й БСДГ. Давядзецца сацыял-дэмакратам каапэтавацца ў БСДГ Шушкевіча.

## СКРАЛІ ПОДПІСЫ

13-18-га верасьня ў Варшаве ў канфэрэнцыі бралі ўдзел дзьве беларуская дэлегацыя, як ад "афіцыйнага" Менску, так і апазыцыйная. Сярод апошніх была і функцыянэрка "Хартыі-97" Людміла Гразнова.

Падчас свайго выступу сп-ня Гразнова распавяла пра перасьлед у Беларусі журналістаў недзяржаўных СМІ. І пусьціла па шэрагах зварот, каб эўрапейскія дэлегаты падпісаліся за Мажэйку, Маркевіча ды Івашкевіча. Эўрапейцы пачалі ахвотна падпісвацца, але калі сьпіс апынуўся на адрэзку паміж дэлегацыямі Азэрбайджана ды Бэльгіі, ён нечакана зьнік.

Акурат між гэтымі дэлегацыямі сядзела афіцыйная дэлегацыя зь Менску.

## ПАДТРЫМКА ЖУРНАЛІСТАЎ

Напрыканцы верасьня першы сакратар амбасады ЗША у Беларусі Тэд Контак і трэці сакратар Ян Тэрнэр наведалі месцы ўтрыманьня Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі, адпаведна ў папраўчых установах Асіповічаў і Жлобіна. Маркевіч працуе вартаўніком на прадпрыемстве ў Асіповічах, а Мажэйка - разнарабочым на прыватным тартаку.

Візыт насіў неафіцыйны характар, але прадстаўнікі амэрыканскае амбасады заявілі, што і надалей будуць такім чынам падтрымліваць асуджаных журналістаў.

## ЗЬЕЗД ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

24-га верасьня ў Менску прайшоў пазачарговы зьезд Саюзу Беларускіх Пісьменьнікаў. Да яго два месяцы была прыцягнутая вялікая ўвага. Ніякіх расколаў, якія плянаваліся, не адбылося. Праўда, не прыехаў на зьезд Васіль Быкаў, не схацеўшы гуляць у палітычныя гульні.

Не абышлося і бязь "сьмешных рэчаў". Рэдактар "Бюлетэня Адміністрацыі Прэзыдэнта Беларусі" Эдуард Скобелеў распавядаў дэлегатам пра масавае зьбядненьне народу ў заходніх краінах ды наступ там-жа на правы рабочых. А напрыканцы прапанаваў паставіць помнік Лукашэнку. Яго асьвісталі.

Новым старшынём абраны малады пісьменьнік і выкладчык БДУ Алесь Пашкевіч. На выбарах яму супрацьстаяў рэдактар дзіцячага часапіса "Вясёлка" Уладзімер Ліпскі.

У склад Рады СБП абраныя 45 чалавек, сярод іх: Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Сяргей Законьнікаў, Вольга Іпатава, Уладзімер Арлоў.

## МІЛІЦЭЙСКІ ТЭРОР

У ноч з 8-га на 9-е верасьня ў Горадні зьбілі журналіста і музыканта. Ен не сьвяткаваў у той дзень ні Дня вайсковае славы, не стаяў зь пікетам у абарону асуджаных журналістаў з "Пагоні", хоць дагэтуль неаднаразова браў удзел у дэмакратычных акцыях.

26-гадовы Стас Пачобут, лідэр моладзёвага панк-гурта "Deviation" і карэспандэнт газэты "Навінкі", у той дзень вяртаўся зь дня народжаньня. На вуліцы Пушкіна яго спынілі міліцыянты й загадалі сесьці ў машыну. Стас адмовіўся і запатрабаваў паказаць дакументы. Тыя ў адказ надзелі яму кайданкі й пачалі зьбіваць, а потым кінулі галавою аб асфальт. Зьбіцьцё працягнулася ў машыне. Калі даставілі хлопца ў Ленінскі РАУС, яго кінулі тварам аб ганак. Калі Пачобута пазьней прывезьлі ў шпіталь хуткай дапамогі, у яго зафіксавалі страсеньне мазгоў, а таксама выявілі, што зламаная скіўіца. Ад зьбіцьця моцна заплыло вока, і ўзьнікла пагроза страты зроку.

Брат Стаса Андрэй Пачобут і сябры намагаліся распачаць крымінальную справу супраць міліцыянтаў, але тыя ўсяляк адмаўляюць зьбіцьцё і кажуць, што Стас сам (!) упаў галавою аб асфальт а потым на прыступкі ганку, таму і пабіўся моцна.

## СЬВЯТА КОЛАСА

21-га верасьня на Стаўпечыне адбылося рэспубліканскае сьвята паэзіі "Па шляху Якуба Коласа", прысьвечанае 120-годзьдзю зь дня народжаньня паэта. Некалькі тысячаў чалавек наведалі мясьціны, зьвязаныя зь імем паэта: фальварак Акінчыцы, дзе нарадзіўся Кастусь Міцкевіч (цяпер у межах Стоўпцаў) ды Мікалаеўшчыну, разьмешчанаю ў маляўнічай лукавіне Нёмана. Найвышэйшыя чыноўнікі дзяржавы й ад літаратуры кляліся ў любові да творчасьці Коласа, імкнучыся даказаць, што рупліца і пра Беларусь, і пра Коласа.

## ЗЬБІЛІ МАЛЬДЗІСА

23-га верасьня а 11-й вечара невядомыя зьдзейсьнілі напад на слыннага навукоўца і беларусіста Адама Мальдзіса. Напад быў зроблены каля дому, дзе жыве прафэсар. Яго зьбілі ды адабралі "дыплямат" з паперамі. Паважанага навукоўца заўважыла жонка, якая выглянула ў вакно і ўбачыла мужа, які ляжаў на зямлі і стагнаў. Выклікалі "хуткую дапамогу". Сам Адам Мальдзіс адхіліў палітычную вэрсію нападу, заявіўшы, што зьвязвае выпадак зь меркаванымі Другімі беларуска-японскімі чытаньнямі, прысьвечанымі Язэпу Гашкевічу, ураджэнцу Беларусі, першаму консулу Расеі ў Японіі.

## РЭЙТЫНГ ЗЬНІЖАЕЦЦА

Рэйтынг Лукашэнкі ў верасьні чарговы раз зьнізіўся і складаў напрыканцы месяца 27%. Спэцыялісты прагназуюць, што з пагаршэньнем жыцьця і матэрыяльных умоваў ён будзе і надалей пакрысе паўзьці ўніз.

Але тое-ж апытаньне выявіла, што сярод партыяў найбольш рэйтынг мае Беларуская лібэральна-дэмакратычная партыя Сяргея Гайдукевіча, але гэта толькі каля 6,5%! Два БНФ і сацыял-дэмакраты ўціскаюцца ў межах ад 2,5 да 3,9% працэнтаў.

## НАПАД НА ЖУРНАЛІСТА

Увечары 28-га верасьня невядомыя напалі на журналіста недзяржаўнага "Радыё Рацыя" Генадзя Кесьнера. Гэта адбылося а 9-й гадзіне вечара на аўтобусным прыпынку на вуліцы Ясеніна, што ў крымінагенным мікраёне Малінаўка. Журналіст вяртаўся дахаты, ён выйшаў з аўтобусу, і тады невядомыя нанесьлі некалькі ўдараў па галаве. Генадзь страціў прытомнасьць, а калі ачуняў, то выпадковыя мінакі дапамаглі яму дабрацца дахаты, адкуль яго ўжо забрала машына "хуткай дапамогі". У больніцы лекары канстатавалі, што ў журналіста чэрапна-мазгавая траўма. Цікава, што ні прыватных рэчаў, ні грошай у яго ня скралі.

## СЬВЯТА АГІНСКАГА

22-га верасьня ў Залесьсі, што на Смаргоньшчыне, адбылося сьвята, прысьвечанае 237-годзьдзю зь дня народжаньня Міхала Клеафаса Агінскага. Зладзілі яго супрацоўнікі музэя Агінскага. Цікава, што той музэй невялічкі: дырэктар, два навуковых супрацоўнікі й вартаўнік. Старэйшы супрацоўнік музэя Сяргей Верамейчык адначасова ўзначальвае дзіцячую студыю "Альтанка". На сьвяце выхаванцы "Альтанкі" выканалі песьні, прысьвечаныя Агінскаму. А пасьля на флейтах сыгралі музычныя творы знакамітага земляка.

Гэта ўжо 12-е сьвяткаваньне ўгодкаў вялікага музыкі. Папрыяжджалі госьці з усіх кутоў Беларусі, але найбольш было землякоў.

## ПАСТАВІЛІ КРЫЖ

У вёсцы Ляды, што на Ігуменшчыне, 22-га верасьня стараньнямі мясцовых актывістаў, якіх узначальвае старшыня мясцовай філіі БНФ і сябра мастацкай суполкі "Пагоня" Генадзь Матусевіч, быў пастаўлены крыж. Ён цяпер стаіць на месцы баёў паўстанцаў Каліноўскага з расейскімі карнікамі ў 1863-м годзе. На крыжы выбітыя словы: "Божа, барані Беларусь!"

## "ДЗЕЯСЛОЎ"

Напрыканцы верасьня ў Беларусі зьявілася новае літаратурнае выданьне - "Дзеяслоў" (Літаратурна-мастацкае і публіцыстычнае выданьне). Зроблены ён сілами тых літаратараў, якія не схацелі працаваць разам з уладаю ва ўжо паднявольных "Полымі", "Крыніцы", "Нёмане". Галоўны рэдактар Барыс Пятровіч (Сачанка), былы намесьнік галоўнага рэдактара "Полымя", намесьнікі - Алесь Пашкевіч і Эдуард Акулін. Часапіс падзяляецца на 4 разьдзелы: паэзія, проза, пераклады, публіцыстыка і крытыка.

У першым нумары, які шыракафарматны й налічвае 256 бачынаў, друкуюцца вэрсэты Алеся Разанава, паэма "Палянэз" Уладзімера Някляева, вершы Леаніда Дранько-Майсюка, Алеся Пісьмянкова, Яна Чыквіна, Міхася Скоблы; урыўкі з новай кнігі Сьвятланы Алексіевіч, апавяданьне Андрэя Федарэнкі "Чарнавікі і пісьмы", абразкі Янкі Брыля, аповесьць Юрыя Станкевіча.

Дададзім, што выданьне мае наклад 1.000 асобнікаў. У прадмове выдаўцы пішуць: ""Дзеяслоў" - выданьне адкрытае для ўсіх. У гэтым можна пераканацца па першаму выпуску. Усё вартае: таленавітае, адметнае, шчырае, сьмелае - будзе друкавацца на старонках выданьня. "Дзеяслоў" пастараецца не расчараваць ні сваіх сяброў, ні сваіх ворагаў. Крытэрыем для "Дзеяслова" будзе найперш літаратурная вартасьць і якасьць твору, а не палітычная заангажаванасьць".

## ЖАХЛІВАЕ ЗАБОЙСТВА

Напрыканцы верасьня міліцыянты затрымалі 63-гадовую жыхарку вёскі Чамяры-2 Ганну Семянюк, якая прызналася ў тым, што яшчэ ў студзені пасьля сваркі забіла свайго сына сякераю, а потым разам з мужам закапалі цела ў хляве. Вяскоўцам яна заявіла, што сын зьехаў.

## ПРА ВЕЧНАСЬЦЬ І МІР

17-га верасьня Лукашэнка ладзіў для журналістаў прэсавую канфэрэнцыю. Як звычайна, было весела і цікава. Напрыканцы шоў, калі прыгатаваныя загадзя пытаньні скончыліся, Лукашэнка папрасіў пытаць яшчэ. Журналіст Беларускай службы Радыё Свабоды Валянцін Жданко задаў пытаньне: што будзе рабіць Лукашэнка ў 2006-м годзе, паколькі канстытуцыя забараняе абіраць на трэці тэрмін. У адказ Лукашэнка заявіў, што ніякіх хітрыкаў рабіць ня будзе, а толькі "пачэснаму" праз рэфэрэндум будзе прынятае рашэньне аб магчымасьці абірацца на трэці тэрмін. А "потым чэсныя прэзыдэнцкія выбары". Апроч таго, Лукашэнка моцна павесяліў публіку заявіўшы, "што ён самы чэсны і самы веруючы прэзыдэнт у сьвеце". Напэўна, больш веруючы за Яна Паўла II.

*Уласны карэспандэнт*

# ПОСТАЦІ ЭМІГРАЦЫІ

## УЛАДЗІМЕР ШЫМАНЕЦ



Хацела-б расказаць пра Уладзімера Шыманца, майго бацьку. А быў ён чалавекам вартым памяці. Памёр 25 гадоў таму (дзеля гэтага як раз хацела-б пра яго напісаць), 27-га жніўня 1977-га году, не дачакаўшыся незалежнасьці Беларусі. А ня выехаў з Эўропы толькі таму, каб быць бліжэй да Бацькаўшчыны, каб неяк - хоць пешкі - можна было вярнуцца. Прынцыпова ня ўзяў францускага грамадзянства. Да канца жыцьця ён і мама былі "беларускімі ўцекачамі".

Бацька быў патрыётам, які шмат гадоў свайго жыцьця аддаў Беларусі. Залажыў і вёў да выезду ў Францыю Згуртаваньне Беларусаў у Даніі, дзе выратаваў шмат людзей з Усходняе Беларусі ад мусовага павароту на радзіму. Нядаўна я спатыкалася зь людзьмі, якія яго з тых часоў ведалі.

Захаплялася ягонай людзкой годнасьцю, адвагаю, вераю ў будучыню. На магіле сястрычкі, якая памерла 26-га траўня 1945-га году ўжо ў Даніі, паставілі бацькі помнік, на якім напісана: Прадслава Шыманец, дачка беларускіх уцекачоў (гэта апошняе па-дацку).

У Парыжы Ў. Шыманец браў актыўны ўдзел у жыцьці Сусьветнай Асацыяцыі Беларускай Эміграцыі, "Хаўрусу", Рады БНР. Залажыў і выдаваў газэту "За Волю". Пісаў у грузінскай франкамоўнай газэце "Nation Georgienne" беларускую бачынку. Пазнаёміў у артыкулах, якія друкаваліся ў "Беларусе", нашую дыяспару зь беларускімі мастакамі ў Францыі, а менавіта зь Віктарам Жаўняровічам і Міхасём Наўмовічам, працы якіх вісяць дасюль у шматлікіх беларускіх дамох ЗША і Канады. Сам быў чалавекам надзвычай здольным. Скончыў Віленскую тэхнічную школу з найлепшымі адзнакамі, але марыў усё жыцьцё толькі пра мастацтва. Пайшоў на пэнсыю раней, каб магчы зрэалізаваць свае мастацкія задумы. За апошнія гады жыцьця намаляваў каля двухсот працаў, у бальшыні на беларускія тэмы. Прыехаўшы ў Францыю, сваімі рукамі з жонкаю Эвэлінаю і дзецьмі пабудаваў сям'і дом пад Парыжам - бо не было дзе жыць. І памог суродзічам пабудаваць дзесятак іншых дамоў.

Але перад усім быў Уладзімер Шыманец надзвычайным бацькам. З братам заўсёды будзем удзячныя бацькам за тое, што адважыліся з трыма малымі дзецьмі выбрацца ў няведамы сьвет, каб зноў ня трапіць у бальшавіцкую няволю. З сабою несьлі толькі свае школьныя дыплёмы й... Гісторыю Беларусі. Паводле гэтай Гісторыі ў Даніі тата і навучыў нас беларускай мовы й гісторыі. Апрача таго даўга жылі мы ягонымі лекцыямі матэматыкі, альгебры. Пазьней, ужо ў гімназіі, ня было таго прадмету (прача чужых моваў), у якім ён ня мог нам дапамогчы.

Удзячныя мы бацькам таксама за тое, што выгадавалі нас моцнымі беларусамі. Ведаем, хто мы, бясконца любім нашую Бацькаўшчыну і перадалі гэтую любоў нашым дзецям. Кнігу ў ангельскай мове, прысьвечаную маёю дачкою Паўлінкаю беларускаму року (якая толькі што выйшла з друку), і кнігу ў францускай мове, прысьвечаную беларускаму тэатру, якую пляменьніца Вірджынія Шыманец падрыхтоўвае цяпер да друку, можна сьмела залічыць да спадчыны Уладзімера Шыманца.

І Паўлінка, і Вірджынія здабылі ступені дактароў навук.

*Івонка СУРВІЛЛА*

# ПРА ЛЁС РЫГОРА ЗЫБАЙЛЫ

**Летам 2001-га году разам з хлопцамі з патрыятычнай арганізацыі "Край" прыехаў я ў вёску Яглевічы, што каля Івацэвічаў. Ужо ведаў, што на мясцовых могілках пахаваны беларускі дзеяч Рыгор Зыбайла, але хацелася пабачыць ягоную магілу на ўласныя вочы. Доўгі час лічылася, што ён загінуў у Францыі ў 1945-м годзе...**

На помніку надпіс па-беларуску:

*"Зыбайло Рыгор Барысавіч нарадзіўся 15.09.1913 г. памёр 15.XI.1987 г. Дарагому бацьку і дзядулю".*

З фатаздымка глядзеў на мяне малады Зыбайла, ведамы па іншых здымках ваенных часоў. Ніякіх сумневаў не было - гэта ён. Сябра ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі, удзельнік Першага штурмовага зьвязу, афіцэр БКА, дэсантнага батальёну "Дальвіц", намесьнік старшыні Беларускай Самапомачы...

Беларускія эміграцыйныя выданьні (напрыклад, кніга "Другі Ўсебеларускі Кангрэс") падаюць, што Зыбайла быў расстраляны контрразьведкаю польскай арміі Андэрса ў Марсэлі ў 1945-м годзе. Нібыта, пасьля таго, як у яго знайшлі фатакартку, дзе ён быў у форме афіцэра БКА. Пішучы пра розныя вэрсіі ягонага лёсу на балонках газэты "Голас камбатанта" ў 2000-м годзе, я прывёў урыўкі зь ліста Барыса Данілюка з ЗША. Данілюк згадаў, што ў пачатку 1947-га году ў францускую зону акупацыі Нямеччыны прыяжджаў Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык: "ён расказаў, што даведаўшыся пра перадачу Зыбайлы палякам, зьвярнуўся да польскага прэзыдэнта Рачкевіча, зь якім тады йшлі дыпляматычныя гутаркі БНР, каб той загадаў Зыбайлу выпусьціць. Рачкевіч гэткі загад выдаў, але ўжо было запозна, бо Зыбайлу самавольна застрэлілі нейкі польскі шавініст...".



Аднак Зыбайла ня быў расстраляны. Гісторыя з "расстрэлам" дазваляла яму зьнікнуць - савецкія агенты палявалі на такіх, як ён. А Рыгор Зыбайла, праўдападобна, атрымаў прапанову працаваць у нейкай сакрэтнай установе на Захадзе. Прынамсі, Віктар Сікора, са слоў людзей, якія былі ў зьняволеньні разам з Зыбайлам, успамінае, што ён выкладаў у сакрэтнай школе, дзе рыхтаваліся людзі для антыбальшавіцкай барацьбы. Зыбайла, нібыта, быў выкрадзены савецкімі агентамі й вывезены ў СССР.

Лёс Рыгора Зыбайлы прасьвятліўся выпадкова. У 2000-м годзе вярнуўся з Расеі на Бацькаўшчыну былы слонімскі самаахоўвец Пётра Пархута. Падчас нашай размовы выпадкова згадалі Зыбайлу. Выявілася, што яны нейкі час разам працавалі ў слонімскай Самапомачы.

"Спатыкаўся я з Рыгорам Барысавічам Зыбайлам і пасьля вайны, - успамінаў Пархута. - Нават езьдзіў да яго ў вёску. А жыў Зыбайла ў вёсцы Яглевічы недалёка Івацэвічаў. Ён быў вельмі вялікі беларускі патрыёт. Зыбайла мне расказваў, як яго дапытвалі чэкісты: "Мяне сьледчы пытаецца: "Почему ты изменил родине?". А я яму гавару: "Якая "родина"?! У мяне Радзіма - Беларусь, а не Савецкі Саюз! Я ў вас нікoлі ня жыў і не лічу Савецкі Саюз сваёю Радзімаю. А сваёй Беларусі я ніколі ня здраджваў!". Пархута, са словаў Зыбайлы, зразумеў, што той сам, праз Чэхаславаччыну, вярнуўся ў Беларусь. Праз колькі тыдняў пасьля той нашай размовы Пархута памёр...

На маю просьбу ў Яглевічы на пошукі сьлядоў Р. Зыбайлы паехаў знаёмы з Івацэвічаў. Там ён і даведаўся, што Зыбайла памёр, а ягоны сын ня хоча нават размаўляць на гэтую тэму. Больш таго, у тэлефоннай размове палохаў яго КГБ, называў "бэнээфаўскай сволаччу", казаў што бацька з 1939-га году працаваў на савецкую разьведку... Людзі кажуць, што сыну Зыбайлы дасталося ў школе, дзе яго называлі "паліцаям". Меў ён праблемы з-за бацькі й у далейшым жыцьці. Сам Рыгор Зыбайла працаваў будаўніком. Аднойчы ў івацэвіцкай газэце быў зьмешчаны здымак групы будаўнікоў, а сярод іх і Зыбайла. Быў вялікі скандал.

На могілках у Яглевічах побач з Зыбайлам пахаваная ягоная жонка:

*"Казлова Еўдакія Антонаўна 23.II.1917 г. - 8.IV.1983 г.*

*Дарагой, каханай жонцы і мамачцы"* - чытаем на помніку. Кажуць, што ў іх каханьне было яшчэ зь юнацтва. Вайна іх разлучыла. З 1941-га году Рыгор Зыбайла працаваў у Слоніме на пасадзе старшыні акруговага камітэту БНС. У 1942-м годзе ў горад прыяжджае з-пад Івацэвічаў і Казлова, працуе настаўніцай, але ня толькі. Дакладна ведама, што была яна савецкай разьведчыцай. У 1944-м годзе ёй удалося ўладкавацца на працу ў БЦР да Р. Астроўскага, перадавала савецкім партызанам розныя інфармацыі. Па некаторых зьвестках Казлова ў 1945-м годзе дапамагала савецкай дзяржбясьпецы вылоўліваць беларускіх патрыётаў у Чэхіі...

Зыбайла і Казлова ажаніліся пасьля ягонага вяртаньня з савецкіх канцлягероў. Беларускі нацыяналіст і савецкая разьведчыца.

*Сяргей ЁРШ*



# Весткі й Паведамленьні

нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://belam.cjb.net

№10 (440)

# ВЕРАСЬНЁЎСКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

На пачатку сходу старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка распавёў прысутным пра Дзень Беларускай Вайсковай Славы, які сьвяткуецца ў Беларусі ўжо больш за 12 гадоў, нягледзячы на рэпрэсіі сьпярша савецкай, а цяпер лукашысцкай улады. Сьвята гэтае ўшаноўвае разам з адзначэньнем гадавіны Слуцкага Збройнага Чыну ў лістападзе памяць змагароў за вольную і незалежную Беларусь, прымеркаванае штогод да гадавіны слаўнай пабеды пад Воршаю войска старажытнай беларускай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага, над захопніцкім войскам Маскоўшчыны 8-га верасьня 1514-га году.

З гэтае нагоды сп. Вячаслаў Мішук пазьней распавёў пра сьвяткаваньне Дня Беларускай Вайсковай Славы, якое правяло ў Менску Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў у 1992-м годзе.

Затым з аглядам падзеяў у Беларусі выступіў заступнік старшыні Рады БНР і супрацоўнік Радыё "Свабода" сп. Сяргей Навумчык. Ён адзначыў, што выступаючы на прэс-канфэрэнцыі ў Крамлі з прапановамі аб уваходжаньні Беларусі ў склад Расеі, Пуцін раскрыў свае карты. Ёсьць думкі, што ён проста хацеў пазьдзеквацца з Лукашэнкі, якога асабіста не паважае. Але дагэтуль Пуцін ні да каго ня ставіўся гэтак грэбліва - ані да грузінскага прэзыдэнта Шэварнадзе, ані да малдоўскага прэзыдэнта Вароніна, ці якога іншага лідэра ў СНД. Аналіз і маніторынг рэакцыяў палітычнай эліты Расеі на гэтыя прапановы паказвае, што за выключэньнем лічаных асобаў, там існуе згода пра тое, што ўключэньне Беларусі ў выглядзе губэрняў у Расейскую Фэдэрацыю адпавядае расейскім інтарэсам. І таму ёсьць усе падставы лічыць заявы Пуціна пачатакам ажыцьцяўленьня больш рашучай і радыкальнай праграмы па зьнішчэньні незалежнасьці Беларусі. І варыянт ядналньня "на ўзор Эўра-Зьвязу" няшмат чым адрозьніваецца ад наўпростай інкарпарацыі ў Расею.

Якая рэакцыя Лукашэнкі на гэтыя заявы? На першы погляд - абурэньне й фразэалёгія пра непрыняцьце анэксіі й страты незалежнасьці. Аднак працяг ягонай рыторыкі пра "саюзны дагавор" ды "інтэграцыю", далейшы ўціск беларушчыны паказвае, што незалежнасьць дзяржавы для Лукашэнкі - толькі аб'ект гандлю. Гэтым разам прапанаваныя Пуцінам умовы гандлю яму асабіста не падыходзяць, і толькі ў гэтым прычына абурэньня Лукашэнкі, якому стала раптам "крыўдна за дзяржаву". Лукашэнка не рабіў у гэты такі адказны для лёсу дзяржавы перыяд ніякіх намаганьняў паразумецца або хаця-б правесьці сустрэчы з прадстаўнікамі апазыцыі, як ён рабіў калісьці, пасьля абраньня прэзыдэнтам у 1994-м годзе. Працягваецца перасьлед беларускамоўных газэтаў, зачыняюцца беларускія школы, адбываецца пагром беларускіх літаратурных часапісаў, ціск на беларускіх пісьменьнікаў. Рэжым не зрабіў нават найдрабнейшага, хоць сымбалічнага жэсту ў бок беларускай інтэлігенцыі, каб яна адчула, што курс на вынішчэньне беларускасьці мяняецца. Пракаповіч з Нацбанку як езьдзіў у Маскву дамаўляцца там аб скасаваньні беларускай нацыянальнай валюты, так і езьдзіць цяпер. Расейскія памежнікі надалей засталіся на беларускіх межах. Засталіся і расейскія вайсковыя базы. Таму падставаў казаць, што Лукашэнка перайшоў на незалежніцкія пазыцыі (пра што часам пісалі ў недзяржаўным друку) - такіх падставаў абсалютова няма. Лукашэнка, безумоўна, імкнецца захаваць свой уласны ўплыў і кантроль, але робіць ён гэта як нейкі "пахан" (крымінальны атаман) лягеру зьняволеных ("зоны"), а не як дзяржаўны дзеяч, не як кіраўнік незалежнай краіны.

Рэальна і правільна, у адрозьненьне ад лідараў апазыцыі ў Менску, ацаніла гульню Лукашэнкі з Пуцінам беларуская дыяспара. Зусім слушнымі ёсьць заявы лідараў дыяспары, у прыватнасьці Рады БНР, пра абсалютную пільнасьць і непрыняцьце прапагандысцкіх заяваў Лукашэнкі за "чыстую манэту". Ціск на рэжым у Менску мусіць працягвацца.

Затым сп-ня Валя Якімовіч правяла прэзэнтацыю кнігі вершаў выдатнага паэта сёнешняй Беларусі Анатоля Сыса. Яна распавяла пра гэтую складаную і неадназначную постаць у сучаснай беларускай літаратуры, пачаўшы ад самых вытокаў паэтавага жыцьця. Калі маці ягоная была цяжарная Анатолем, яе апякло агнём маланкі. Маланка ў народным успрыняцьці ёсьць сымболем і абранасьці, і вырачонасьці, і дабра - бо з маланкай ідзе жыцьцядайны дождж, і кары - бо яна спальвае, асьляпляе.

Так і ў лёсе Анатоля Сыса гэты выпадак адмыслова адлюстроўвае змаганьне дзьвюх сілаў, спалучэньне цемры й сьвятла, ухваленьня й асуджэньня. Выдатны майстра паэтычнага радка, А. Сыс з цудоўнымі, západaючымі адразу ў памяць рыфмамі, спалучае глыбокую філязофію, асэнсаваньне лёсаў беларускаяй зямлі й глыбокае, сэрцам прачутае веданьне ўсіх таямніцаў яе жыцьця. "Ці чуеш ты, як зьвіняць каласы?" - пытаецца паэта. Жыта ёсьць для яго сымболем вечнасьці. Сяўба й жніво, што зьмяняюць адно адное на гэтай зямлі сотні й сотні гадоў - яднае сотні й тысячы пакаленьняў беларусаў, якія жывуць цяпер, ужо адыйшлі ці яшчэ прыйдуць на нашую зямлю. Прырода грае велізарную ролю ў творчасьці паэта, яна прысутная ў кожным амаль ягоным вершы. З гэтым усім спалучаная таксама грамадская, прарочая скіраванасьць твораў А. Сыса. Шмат якія вершы - "Маналёг Апанаса Філіповіча", "Дух" ды іншыя - раскрываюць Сыса, як праўдзіцу, як сумленьне нашага народу, як адлюстраваньне ягонай трагічнай гісторыі.

Сп-ня Валя Якімовіч, якая асабіста фундавала выданьне кнігі паэта, прыгожа прачытала ягоныя вершы, азнаёміла прысутных зь біяграфіяй і творчым шляхам паэта. Прысутныя з захапленьнем паслухалі дэкламаваньне вершаў Анатоля Сыса і раскупілі ўсе асобнікі прэзэнтаванай кнігі, што прынесла сп-ня Якімовіч.

Прысутная на сходзе госьця зь Менску - грамадзкая дзяячка, выдавец і мастацтвазнаўца сп-ня Валянтына Трыгубовіч распавяла прысутным пра сытуацыю ў Беларусі, пра дзейнасьць і выданьні грамадзкай арганізацыі "Беларуская Перспэктыва", якою яна кіруе.

Як заўсёды, прысутныя на сходзе мелі магчымасьць пазнаёміцца з новымі людзямі, якіх бачна ўсё болей на сходах аддзелу, і прыемна пабавіць час пры кубку кавы ў кампаніі сяброў і знаёмых.

**Віталь ЗАЙКА**

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | |
|---|---|
| В. Юдзін ..........30 | М. Дулько ........5 |
| В. Чаркасюк .......30 | К. Суслава ........5 |
| Дз. Мірва .......... 5 | Н. Пратасевіч ......5 |

**На БелПом:**

| | |
|---|---|
| П. Рыжы .........50 | К. Вініцкая ........20 |
| Ю. Кіпель ........40 | |

Шчыры дзякуй!

**Усе ўплаты ў аддзел дасылайце скарбніку аддзелу на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*

**Ахвяраваньне на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя A. Mickievic*

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 12-га КАСТРЫЧНІКА 2002 ГОДУ А 7-й ГАДЗІНЕ ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***




**Каб замовіць новую кнігу вершаў Анатоля Сыса дашліце $10 на адрас:**
***Ruslan Malakhouski***
***2708 Ave Z***
***Brooklyn, NY 11235***

**Чэкі выпісвайце на імя**
***Ruslan Malakhouski***

# ТАЯ, ШТО ПАЛАНІЛА СЭРЦА ВАЯРА

## Бірута, дачка Гедыміна і жонка Давыда Горадзенскага

Ішоў 1299-ы год. У віленскім палацы князя Гедыміна сьвята. Сёньня адзначаецца паўналецьце ягонай улюбёнай дачкі Біруты. У палацы поўна гасьцей. Запрошаныя ня толькі самыя блізкія ды родныя. Прыехалі ў Вільню на сьвяткаваньне і больш далёкія ды не такія значныя. Усе стаяць ля дзьвярэй, адкуль неўзабаве павінна выйсці тая, у чый гонар і сабраліся зараз усе гэтыя людзі. Госьці ціха перамаўляюцца паміж сабою, адчуваецца нейкае хваляваньне, нібы гэта кожнага зь іх, а не Біруту, будуць зараз віншаваць.

І вось нарэшце яна зьявілася ў дзьвярох побач са сваім знакамітым бацькам. Гедымін нікому не перадаручыў такі прыемны свой абавязак: прайсьці побач з дачкою ў такі ўрачысты дзеля яе дзень. Сёньня Бірута прыгожая, як ніколі, хоць яна і заўсёды зьдзіўляла ўсіх, хто меў магчымасьць яе бачыць, сваёй прыгажосьцю і пяшчотнасьцю. Аднак зараз яе маладосьць, прыгажосьць ды цнатлівасьць выклікалі ўсеагульны ўздых захапленьня. Бірута поруч са сваім бацькам ідзе да месца, дзе яна павінна будзе сядзець за ўрачыстым сталом. Ідзе, асьцярожна пераступаючы маленькімі ножкамі ў аксамітных чаравічках, пашытых лепшым майстрам менавіта дзеля гэтага дня. Бірута трошкі хвалюецца, разумее, што сёньня яна - у цэнтры ўсеагульнай увагі. Яна не павінна зганьбіць ні сваю ўласную рэпутацыю, ні, тым больш, ніводным словам, ніводным рухам не павінна нашкодзіць свайму



вялікаму бацьку. Шмат разоў дзяўчына рэпетавала гэтую цырымонію разам са сваімі шматлікімі нянькамі. Вывучыла ўсё да апошняга кроку. Але ўсё-ж хвалявалася. Раптам нешта нядобрае здарыцца зь яе адзеньнем, ці яна спатыкнецца аб які-небудзь каменьчык на падлозе!

Але ўсё адбылося так, як было патрэбна. Пасьля прамоваў ды віншаваньняў усе паселі вакол велізарнага стала. Урачыстая вячэра ў гонар князёўны пачалася. Бірута сядзела за сталом вельмі сьціпла: ня мела сьмеласьці напачатку нават вочы падняць ад свае талеркі, адчувала, што на яе скіраваныя ці ня ўсе позіркі прысутных. Шчокі гарэлі, і ад гэтага Бірута яшчэ больш папрыгажэла.

І раптам яна адчула, што нехта занадта ўважліва ўглядаецца ў яе твар. Князёўна ня вытрымала і зірнула на таго, хто быў такім нахабным. І ледзь стрымалася, каб не паказаць свайго ўражаньня ад таго, што яна ўбачыла. Ці больш дакладна, ад таго, каго яна ўбачыла. Проста насупраць яе сядзеў хлопец, зусім малады, хіба трошкі старэйшы за яе. Ён не адрываў свайго позірку ад твару князёўны, але гэты ягоны ўтрапёны позірк не раздражняў дзяўчыну. Хучэй, наадварот, калі-б побач не было столькі людзей, столькі ўважлівых староньніх вачэй, яна-б таксама не адводзіла позірку ад прыгожага, мужнага твару незнаёмца. Але побач было столькі народу, што Бірута зрабіла над сабою намаганьне і зноў апусьціла вочы ў талерку.

Маладога ваяра, што ня мог адарваць сваіх вачэй ад юнай князёўны, звалі Давыдам. Праз некалькі гадоў імя яго, вядомае ў гісторыі як Давыд Горадзенскі, будзе грымець па ўсіх абшарах Вялікага Княства Літоўскага і далёка за яго межамі. Князь Давыд быў сынам Нальшанскага князя Доўманта, таго самага, што, помсьцячы за жонку, забіў Міндоўга. Доўмант пасьля гібелі Міндоўга вымушаны быў уцякаць у Пскоў. Там ён ажаніўся з унучкаю Аляксандра Неўскага Марыяй. Ад шлюбу Доўманта і Марыі нарадзіўся сын Давыд. Княжыч яшчэ ў дзяцінстве паказаў, што зь яго можа атрымацца нядрэнны ваяр, што пасьля і спраўдзілася насамрэч. Усё дзяцінства хлопца прайшло ў Пскове. І невядома, якім чынам склаўся-б ягоны лёс, але ў Пскове нечакана надарылася велізная бяда: пачаўся мор. Ён скасіў амаль цэлы горад. Нябожчыкаў фактычна не было каму хаваць. Гэты мор забраў і бацькоў Давыда: князя Доўманта і княгіню Марыю. Перад сьмерцю бацькі завяшчалі сыну вярнуцца ў Вялікае Княства Літоўскае.

Такім чынам, сямнаццацігадовы Давыд патрапляе на радзіму свайго бацькі. За гэты час тут адбыліся вялікія зьмены, і Нальшанскае княства ўжо належала князю Гедыміну. Да яго і зьвярнуўся юны Давыд па дапамогу. Было нешта прыцягальнае ў асобе маладога князя, што Гедымін ня толькі пакінуў яго пры сваім двары, але і вельмі хутка даверыў свае войска. Давыд праз вельмі непрацяглы час стаў фактычна другім чалавекам у княстве пасьля самога Гедыміна.

Вось таму і быў запрошаны Давыд на сьвяткаваньне паўналецьця князёўны Біруты. Любімая дачка князя Гедыміна адразу паланіла сэрца юнага ваяра. Праз некаторы час закаханыя ўступілі ў шлюб. Гэты шлюб вітала ўся сям'я вялікага князя Гедыміна, і гэты шлюб вітала ўся дзяржава. Гэта быў вельмі рэдкі выпадак, калі шлюб у такой сям'і быў вітаны як палітычная ўдача і як шлюб па каханьню.

Гедымін і ўся ягоная сям'я ў гэты час яшчэ былі паганцамі. Бірута перад сваім шлюбам павінна была першаю прыняць хрысьціянства і памяняць свае імя на хрысьціянскае. Але закаханаму Давыду гэтак спадабалася імя сваёй нарачонай, што ён угаварыў яе не мяняць яго. Неўзабаве маладая сям'я пакідае Вільню і пераяжджае ў Горадню. Гедымін прызначае свайго зяця горадзенскім кашталянам.

Гэта быў час неспакою. Вялікае Княства Літоўскае ўмацоўвалася, і гэта не давала спакою яго ворагам. Таму ваяваць прыходзілася часта. І гэта быў зорны час для Давыда як для палкаводца. Бірута чакала мужа з паходаў, хвалявалася, як і патрэбна было сапраўднай вернай жонцы. У гэты час на Горадню некалькі разоў нападаюць крыжацкія войскі. У 1305-м годзе горад пасьпяхова вытрымлівае аблогу крыжакоў пад кіраўніцтвам Конрада Ліхтэнхагена з Брандэнбургу. Праз два гады на Горадню напаў Эберхард фон Вірненбург з Круляўца. Абодва разы горад выстаяў, дзякуючы ваярскаму таленту свайго кашталяна Давыда. Падчас абедзьвюх аблогаў Горадні Бірута стаяла на сьценах замку побач са сваім мужам і гэтым надавала мужнасьці яго ваярам. Дзеля сваёй княгіні, якую ўсе любілі, давыдавыя ваяры гатовыя былі толькі перамагчы.

Паходы зьмяняліся паходамі. Давыд ніколі не хаваўся за сьпіны сваіх падначаленых. Гэта быў сьмелы, рашучы палкаводзец і яму надзвычай шанцавала. Каханьне да Біруты, відаць, абараняла і ахоўвала сьмелага ваяра ў бясконцых баёх. Кожны раз, выпраўляючы мужа ў чарговы паход, Бірута шаптала яму: "Я буду чакаць!" І Давыд, па-просту, ня меў права загінуць. Ён павінен быў перамагчы й вярнуцца ў свой шчасьлівы дом.

Бірута была незвычайнаю жанчынаю. Князёўна, дачка вялікага князя Гедыміна, жонка таленавітага палкаводца, яна заставалася вельмі добраю, спагадліваю жанчынаю, якую любілі ўсе: і бацька, і муж, і дзеці, і яе ўласныя чаляднікі, і нават ваяры, што падпарадкоўваліся яе мужу. Гэта было ўвасабленьне сапраўднай жаноцкасьці, хоць у тыя часы гэта было неяк нават і не прынята.

Давыд і Бірута не маглі наталіцца сваім шчасьцем. Праходзілі гады за гадамі, яны сталелі, але каханьне іх не зьмяншалася, а толькі ўмацоўвалася. Яны адносіліся адзін да аднаго, нібы толькі ўчора пабраліся шлюбам. Набліжаныя жартавалі, што Давыд раніцою сьпяшаецца расправіцца ў баі з крыжакамі, каб вечарам быць дома з жонкаю і дзецьмі. І гэта было вельмі падобным да праўды, бо тыя бітвы, якімі ён кіраваў, скончаліся амаль вокаімгненна. Давыд і Бірута нібы адчувалі, што шчасьце іх будзе такім нядоўгім.

Калі ў добрай і памяркоўнай Біруты не было ворагаў, дык у Давыда іх было зашмат. Крыжакі, якія атрымлівалі ад яго паразу за паразай, проста марылі расправіцца са знакамітым вялікакняскім палкаводцам. Пакуль што мары іх не зьбываліся, бо Давыд заўсёды апярэджваў крыжакоў. Ен руйнаваў іхныя пляны, чым уводзіў проста ў лютасьць і жах. Расправіцца з Давыдам у баі было немагчыма: ён быў настолькі сьмелым ды прадбачлівым, што проста спаралізоўваў крыжакоў. Калі перамога не прыходзіць у праўдзівым баі, тады заўсёды зьвяртаюцца да нейкай хітрасьці, плятуць інтрыгі. Так было і з Давыдам Горадзенскім.

Настае 1324-ы год. Давыд у чарговым паходзе. Тры рыцары з Тэўтонскага ордэну, дамовіўшыся, таемна праводзяць у ваколіцы Горадні атрад, які складаўся з шасьцісот чалавек. Яны ноччу, хаваючыся, бяруць у аблогу ўвесь горад. Гэта зрабіць не так цяжка: усё войска ў паходзе разам з Давыдам, на абарону горада пакінуты невялікі атрад. Відавочна, што і гэты, зусім нешматлікі атрад, адолеў бы крыжакоў, бо кожны з давыдавых ваяроў быў варты дзесятка ворагаў, але на іх напалі зьнянацку, нібы драпежнікі. Атрад быў перабіты. Крыжакі ўвайшлі ў горад. Ім патрэбны быў палац Давыда, дзе ў гэты час знаходзілася Бірута з малодшымі дзецьмі. Двое старэйшых у гэты час гасьцявалі ў Вільні ў дзядулі Гедыміна. Гэта іх і выратавала. У палацы, акрамя Біруты і дзяцей, былі некалькі ахоўнікаў ды слугі. Усяго трыццаць восем чалавек. І гэтыя трыццаць восем чалавек супрацьстаялі шасьцістам крыжакам некалькі гадзін запар. Яны біліся за сваю княгіню як ільвы. Але сілы былі няроўнымі. І вось дзьверы ў пакой, дзе хаваліся княгіня і дзеці, з грукатам расчыніліся. Некалькі крыжакоў, пераскокваючы праз цела апошняга княжацкага ахоўніка, уварваліся ў спачывальню Біруты. І яны вымушаныя былі працягваць бой, бо іх зь мячом сустрэла сама тоненькая, слабая княгіня і яе дзеці. Дзеці, і нават самы малодшы сын, якому зусім нядаўна споўнілася толькі шэсьць гадоў, акружылі маці й былі гатовыя біцца да канца. Жонка і дзеці Давыда Горадзенскага загінулі ў баі. Акрамя крыжакоў у палацы не засталося ніводнага жывога чалавека.

Крыжакі абрабавалі палац і падпалілі яго. Але адзін з рыцараў, уражаны сьмеласьцю і вернасьцю Біруты, загадаў спачатку вынесьці з палацу яе цела і целы яе дзяцей.

Калі Давыду паведамілі, што Бірута і дзеці забітыя, ён ужо вяртаўся з паходу дамоў. Стомлены конь, нібы адчуваючы, што ў гаспадара здарылася бяда, нёсься нібы вецер. За Давыдам ледзь пасьпявала ўсё ягонае войска. І вось роднае папялішча. Давыд ня верыць сваім вачам. На сырой зямлі ляжыць яго Бірута, побач - чацьвёра дзяцей. На твары Біруты спакой: яна да апошняй хвіліны заставалася вернай свайму Давыду.

Давыд нахіліўся над роднымі целамі, пацалаваў усіх па чарзе. Паправіў скрываўленую кашульку на малодшым. Яго ваяры стаялі трошкі воддаль. Яны маўчалі. Кожны зь іх быў гатовы помсьціць за сваю княгіню да апошняй кроплі ўласнай крыві. Цішыня стаяла такая, што ажно зьвінела ў вушох. І раптам ад жудаснага крыку здрыгануліся паветра, а напалоханыя коні захрыпелі. Гэта быў крык не чалавека, а параненага зьвера. Давыд ускочыў на свайго каня і паімчаў. Ён імчаў на новую бітву.

Зараз імя Давыда Горадзенскага наводзіла на крыжакоў проста містычны жах. Паходы яго пачасьціліся, і ён амаль нікога ня браў у палон. Крыжакі гінулі тысячамі. Кіраўніцтва тэўтонскага ордэну, супраць якога найчасьцей і хадзіў з паходамі Давыд, ня ведала, якім чынам расправіцца зь непераможным ваяром. Яго ня брала ні дзіда, ні меч. Забіць у бітве Давыда Горадзенскага было немагчыма: ён зусім не дбаў пра ўласнае жыцьцё, але сьмерць ня брала яго. Прыйшлося зноў зьвярнуцца да падману, да хітрасьці.

Давыдава войска разам з палякамі й псковічамі пайшло паходам супраць крыжакоў на Брандэнбург. Пераможна яны дайшлі ажно да Франкфурта-на-Одэры. І вось тут чорная здрада пасялілася сярод шэрагаў супольнага войска. На адпачынку да Давыда нечакана падыходзіць польскі рыцар Анджэй Гост. Князь не прадчувае ніякае бяды, бо Анджэю ён цалкам давярае. Давыд ня ведае, што Госта ужо падкупілі крыжакі. Не падазраючы нічога дрэннага і ягоныя ахоўнікі. Яны й не заўважылі, як Гост нанёс нажом удар у сьпіну Давыду. Убачылі толькі, як той упаў пад ногі свайго вернага каня.

Увесь шлях ад Франкфурта-на-Одэры да самой Горадні ваяры Давыда несьлі цела свайго князя на шчытах. Кожны зь іх лічыў за гонар хоць некалькі хвілін панесьці цела свайго князя. Пахавалі Давыда Горадзенскага на ўзвышшы каля Нёмана недалёка ад Каложскае царквы. Ён знайшоў апошні прытулак побач з жонкаю Бірутаю. Яны зноў былі разам. На гэты раз навекі.

*Лілія САЗАНАВЕЦ*

# КНІГА ВЕРШАЎ "СЫС"

У суботу 14-га верасьня на сходзе ньюёрскага аддзелу БАЗА адбылася прэзэнтацыя доўгачаканай кнігі вершаў - плёну творчасьці апошніх гадоў паэты Анатоля Сыса, якая выйшла ў сьвет напярэдадні 25-га зьезду Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі.

Фармат кнігі не пыхлівы, якую паставяць на паліцу, і яна там зарасьце пылам, а гэткі кішэнны, каб насіць на грудзёх, бліжэй да сэрца, і штораз, як прыдасца, даставаць яе, каб перагледзяць сёй-той радок блізкі сэрцу, што прыйшоў на поздум.

Дзяцінства, юнацтва і сталеньне паэты праходзілі пад уплывам харастваа сьціплай прыроды роднай зямлі й крэўнага люду. Яны стварылі адметны мікраклімат і мікракосмас паэтычнай душы Анатоля Сыса.

Насуперак ідэалягічным установам сацыялістычнага застою і насуперак акупацыйнаму рэжыму ў Беларусі, Анатоль Сыс сфармаваўся вольналюбівым незалежніцкім паэтам, стаў постацьцю Адраджэньня.

Ягоная простая размова з многімі з нас, і маладымі, і сталымі, але тады яшчэ - нясьведамымі беларусамі, яго дакладнае, не фальсыфікаванае, веданьне гісторыі й культуры Беларусі й паэтычная мова Анатоля ў 1980-х пачатку 1990-х гадоў вярталі нас да Радзімы, да самых сябе. Тады кавалася й гартавалася новае пакаленьне нацыянальна сьведамых змагароў за незалежнасьць Беларусі. Так сталася са мною, з маім сынам ды шмат з кім іншымі.

Кожны раз, як перачытваеш паэзію А. Сыса, знаходзіш у ёй новыя для сябе адценьні, думкі, развагі, глыбіню якіх бывае часам цяжка спасьцігнуць. Таму нават мала сьведамыя, але наагул даволі адукаваныя беларусы, называюць Анатоля Сыса беларускім Шэксьпірам.

Апошняя кніга гэтага неардынарнага і часта "няўручнага" паэты чатыры гады праляжала ў менскім выдавецтве "Мастацкая Літаратура". Нешта цэлы час замінала яе выданьню. І таму я палічыла за свой абавязак і гонар дачыніцца да выхаду гэтай кнігі ў сьвет, у людзі.

Часам пытаюцца, ці ёсьць што паміж намі? Так, ёсьць. Пацалункі - як маці да немаўляці, любоў - як у дачкі да бацькі, каханьне - як у чалавека да Айчыны - хоць і абылганай, згвалтаванай, якой бы яна ні была, хоць, па словах паэты, "зьнявечанай зоркай".

І, як-бы там яно не было, але паэта Анатоль Сыс і ўсё напісанае ім сталі часткаю майго ўласнага жыцьця і, ўрэшце, часткаю мяне самой.

Хочацца верыць, што "Мастацкая Літаратура" ў бліжэйшы час выдасьць ягоны зборнік зноў, але ў больш поўным выглядзе, з уключэньнем перакладаў А. Сыса з такіх выбітных паэтаў, як Тарас Шаўчэнка, Яніс Райніс ды іншых, са зборам баладаў ды іншых народных твораў, сабраных ім на Палесьсі:

> І ад хутара да вёскі
> мову родную жабрую,
> за вясьнякі праўлю косы,
> за быліцы ладжу збрую...

Дадам, што паэта зьбіраў па закінутых вёсках старажытныя сьпевы, сам маючы абсалютовы музычны слых і прыгожы голас. Зьбіраў таксама ўнікальныя абразы мясцовых майстраў, больш паўсотні зь якіх ён перадаў у гомельскі музэй. Хочацца верыць, што наступная кніга будзе мець і большы фармат, і прыстойны пераплёт, і больш зручную кампаноўку вершаў на старонках.

Усім ведама, што народзіны дзіцяці - не заўсёды прывабнае відовішча, гэта боль і пакуты. Але тое забываецца з часам, а дзіця-ж, народжанае ў пакутах, застаецца сымболем несьмяротнасьці, сымболем працягу жыцьця. Так і паэзія - яна заўсёды, калі сапраўдная - нараджаецца праз пакуты. Кожны паэта, мастак і наагул творца - гэта як прыўкрасная, непаўторная кветка. Гэтак і кожны сапраўдны талент важны для нашае культуры, тым больш такі, як талент Анатоля Сыса. Сыс стаіць



у першым шарагу, а можа і на першым месцы, на паэтычным Алімпе Беларусі. Важна ня колькі, а якія творы ён прынёс у сьвет. Трэба шанаваць і берагчы кожны сапраўдны талент, рабіць яго часткаю агульнага нацыянальнага скарбу. "Час зьбіраць камяні". Ня ворагі, не сябры, а ягоная вялікасьць час рассудзіць, хто чаго варты.

Анатоль Сыс нарадзіўся 26-га кастрычніка 1959-га году ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёну пад Гомелем, што разьлеглася непадалёк Дняпра. Паэта пабачыў сьвет у сялянскай сям'і, дзе было пяцёра дзяцей, малодшым зь якіх быў Анатоль. Ён скончыў Броненскую сярэднюю школу, затым - Гомельскі Дзяржаўны Унівэрсытэт. Служыў у войску, працаваў у Веткаўскай раённай газэце, з 1985-га году працаваў тэхнікам на Беларускім Тэлебачаньні. Сыс быў ініцыятарам, арганізатарам і сябрам створаных на пачатку 1980-х гадоў маладзёвых "нефармальных" незалежніцкіх суполак: "Майстроўня", "Талака", "Дзяньніца", літаратурнага аб'яднаньня "Тутэйшыя", што зрабілі вялізны ўплыў на беларускае нацыянальнае адраджэньне, на стварэньне першай за апошнія дзесяцігодзьдзі беларускай палітычнай арганізацыі - Беларускага Народнага Фронту. Так паэта спрычыніўся да таго, што Беларусь стала на шлях незалежнасьці.

У 1991-м годзе Анатоль Сыс быў прыняты ў Саюз Пісьменьнікаў Беларусі.

Родная прырода, родныя краявіды займаюць значнае месца ў творчасьці А. Сыса. І як чалавек, і як паэта, ён моцна зьвязаны зь зямлёю Айчыны (ст. 88):

> Дарога полем - да маці.
> Дарога лугам - да бацькі.
> Дарога рэчкай - да любай.
> Але
> І полем, і лугам, і рэчкай
> Іду заўжды да Радзімы.

Зборнік "Сыс" пачынаецца з радкоў аб маці. Для паэты вобраз жанчыны й маці атаесамляецца з Радзімаю (ст.6):

> Радзіма пачынаецца з жанчыны.
> Я гэта адчуваў, а зразумець
> Яшчэ ня мог - дзіцём шчапаў лучыну,
> Каб хворую матулю адагрэць.

Той-жа матыў у вершы "Аднойчы між Берлінам і Варшаваю" (ст. 50):

> Было мне такое сьненьне:
> Дзьве маці дзялілі сьлёзы па сыне,
> Што на чужыне ў жаўнерах.
> Дзьве маці ў аднога сына...
> І былі яны такія родныя -
> Мая маці Марыя
> І мая маці Радзіма.

Родная маці Марыя ў паэтычных радках Анатоля Сыса зьяўляецца як агульначалавечая маці Сусьвету, якая ходзіць "па вёсках, па ўбогіх людзях, Богам самым забытых" (ст. 37):

> Сьветлая вымавіць:
> Я - Марыя,
> З твару змахне зморшчынкі
> І бедаку, як душу, раскрые
> Дзьверы сваёй хацінкі.
> Зёлак настоіць на першым сьнезе,
> Нанач яго напоіць,
> Скура, як з вужа, зь нябогі зьлезе,
> Згіне з душы нябогасьць.
> Любы мой, - скажа яму Марыя -
> Шчасьце тваё ў пакутах.

Аб сабе А. Сыс піша: "Мой радавод вёў летапіс свой плугам" (ст. 10). Аднойчы 37-гадовы паэта сказаў: "Для мяне мой Гарошкаў - і Рым, і Парыж, і цэнтар Сусьвету". Штогод пасьля Вялікадня, а пазьней пасьля "Чарнобыльскага Шляху", ладжанага БНФ, паэта едзе ў родную вёску, і як руплівы, дасьведчаны селянін, ідзе штовясны за плугам. І нараджаюцца радкі, насычаныя вечнасьцю (ст. 16):

> Як па зорках, па расе
> Твой апошні шлях праляжа,
> Памірай, а жыта сей.
> Рунь пра сейбіта раскажа.

Калі ў 1996-м годзе "Чарнобыльскі Шлях" на загад Лукашэнкі быў з жалобнага шэсьця ператвораны ў крывавае, амонаўцы дубінкамі зламалі Анатолю Сысу нос і выбілі ськівіцу. Дужа не спадабалася ўладам і амонам ягонае беларускае вымаўленьне. Месяц паэта ня мог размаўляць і есьці, ляжаў у шпіталі. Але сэрца балела не за сябе - за край. Верш "Чорная быль" (ст. 65), напісаны ў той час, адлюстроўвае наступствы трагічнага чарнобыльскага выбуху:

> Не абразы, а змучаныя твары
> Крыніцы адбівалі, а Дняпро
> Цягнуў, як баржы, д'яблавыя хмары -
> Трымцелі жылы і цяжэла кроў.
>
> Шчымелі крылы у палескіх птушак,
> Балелі рукі ў тутэйшых баб,
> І чорным цьветам расьцьвіталі ігрушы
> Атрутным сокам наліваўся сад.

Для Анатоля Свса зямля - гэта вёска Гарошкаў, Радзіма, улоньне, у якім людзі нараджаюцца, жывуць і ў якое сыходзяць. Чалавек і паэта, сейбіт, поўны любові да зямлі, стварае вершы з глыбокім філязофскім зьместам, якія шугаюць у неба, каб з вышыняў ахопліваць рэчаіснасьць, спалучаць яе зь небам і зямлёю ў Сусьветную Гармонію. Менавіта неба асэнсоўваецца як прытулак душы.

У кнізе сабраныя дзесяць маналёгаў. Кожны зь іх хвалюе шчырасьцю, жарсьцю і тонкасьцю адчуваньня, высокай мастацкасьцю паэтычнага радка. Сярод іх "Маналёг Апанаса Філіповіча" (ст. 67), які кранае кожнага беларуса:

> У гэтай краіне ня маю я дому,
> Вось воблака - сяду і ў сьвет палячу
> Над гэтай гаморай, над гэтым садомам,
> Ні грошай, ні славы - я волі хачу.
>
> У гэтай краіне ня маю я долі,
> Вось посах і торба, і сотні дарог.
> Па долю пайду. Не вярнуся ніколі.
> Няхай мяне судзяць усе людзі, хоць Бог.

Праз суадносіны з жыцьцём прыроды паэта перадае свае ўласныя эмоцыі, настрой і стан душы. Часамі ён абсалютова зьліваецца з прыродаю, з Сусьветам. Сыс адчувае роўнасьць і крэўнасьць з усім, што насяляе сьвет. У ім жыве паганскі дух нашых старажытных продкаў. Лес для яго храм Боскі. Гульня словаў "лес-лёс" падкрэсьлівае лёсавызначальную наканаванасьць лёсу і прыроды. Паэта засьцерагае, што разам з крызісам у прыродзе немінуча наступае крызіс у грамадзтве.

Лірыка А. Сыса - не салодкае замілаваньне сьветам. Яна перадае нам трывожныя, трагедыйны стан яго душы, горыч ад неразуменьня яго іншымі людзямі, ягоны пакутлівы боль за лёс кожнага чалавека, усяго нашага народу, роднага краю і за ўвесь сьвет белы. Душа паэты, ягоная паэзія ўвабралі ў сябе сусьветны боль і сусьветны жаль, які ён сам ужо, здаецца, ня ў стане несьці ў сабе. Гэта паэта-трагік. Нават краса наваколья яго трывожна раніць, як у паэме "Алаіза" (ст. 113):

> Што ні дрэва - балючы вобраз,
> Што ні зорка - сьляза з вачэй,
> Поле шчырасьцю апячэ...
> Прарастае з-пад сэрца колас.

Анатоль Сыс - філёзаф. Вершы, напісаныя ім некалі, здаюцца напісанымі сёньня, бо ў іх паэта пранікліва заўважае і нясе да чытача вечныя ісьціны, якія ніколі не губляюць сваёй актуальнасьці ("Дух", ст. 36):

> Зноў прыляціць гайня,
> Выйдзе зь яе плюгавы.
> Дух - гэта, людзі, Я!
> Скажа, а сам з рагамі.
> Людзі разявяць рот -
> Як-жа, такія словы:
> "З намі - увесь народ"
> "Шлях да адзінай мовы!"

Паэту хвалюе лёс мовы й культуры яго народу, дзяржавы. Ён марыць пра ўваскрашэньне вершніка Пагоні. У паэме "Алаіза" (ст. 110) чуваць ягоны немы крык душы:

> Дзьмухаўцамі ўмiралі поўні,
> Толькі голас стагнаў пра выйсьце:
> "Ну хоць хтосьці вяртаньне помніць
> да Радзімы спрадвечных ісьцін?"
>
> Там цьвітуць лугі ў пастаралях,
> Там чакаюць нас дзьве жанчыны:
> Маці ў сумных сваіх каралях
> І Айчына.

Анатоль Сыс марыць аб каханьні, вернасьці, аб дзецях, каб дачка і сын памяталі дарогу дамоў, калі яго ня будзе. Яго паэзія паўтарае спрадвечныя тэмы на новым вітку, праз сінтэз яго ўласных пачуцьцяў і думак, праз уласнае філязофскае асэнсаваньне. Гэта творчасьць прагне агульначалавечых каштоўнасьцяў. І таму ў ёй адлюстроўваюцца знакі вечнасьці, што прысутнічаюць у кожным імгненьні чалавечага і прыроднага жыцьця.

Я не ганю паэтаў, якія пішуць: "Траўка зеленее, сонейка блішчыць". Няхай пішуць, калі гэта некаму трэба. Ды толькі я таксама вершы, раз прачытаўшы - адкладу, бо ў іх усё сказана, яны ня маюць тайны, і думаць у іх - няма пра што. Мне больш да спадобы такія радкі Анатоля Сыса (ст. 92):

> Марна ўсё. Як калінавы цьвет
> Зьнішчыць сьвет і багоў, і сьмяротных,
> Не пакінуўшы ў космасе сьлед
> Ад мяне і зямелькі гаротнай.

Вершы Сыса я не вучу на памяць, бо ў гэтым - ужо нейкая завершанасьць. Я карпаюся ў ягоных радках зноў і зноў, люблю, пакутую, жыву ў іх разам з паэтаю і ягонаю напругаю душы ў невядома колькі тысячаў вольт. І кожны раз адкрываю новы сьвет, які не пакідае мяне абыякавай. Уваходжу штораз-бы ў храм - у пакутлівую прыгажосьць, непаўторнасьць і хуткацечнасьць прыроды й сьвету.

Вершы Сыса хвалююць. Кожны можа знайсьці ў іх радкі, сугучныя свайму сьветаўяўленьню. Анатоль Сыс у сваю творчасьць увабраў найлепшыя традыцыі беларускай і сусьветнай клясыкі. Поруч з трагедыйнымі матывамі ён мае рамантычную ўзьнёсласьць і веру ў адраджэньне Бацькаўшчыны, да якой уся любоў яго ("Беларусь", ст. 130):

> О сьвятая мая, о Боская,
> Хаця сэрца сьніць гостры нож,
> Ад цябе адной не адрокся я -
> У нагох тваіх - медны грош.

Анатоль Сыс - клясык нацыянальнай, а бадай што і сусьветнай паэзіі. Чаму я кажу "бадай"? Таму што не ўяўляю, як можна перакласьці паэзію на іншую мову. Гэта - як перакласьці душу. Аб паэтычнай творчасьці немагчыма расказаць "у скупых газэтных радках". Зь ёю трэба сустрэцца вочы ў вочы, каб адчуць і зразумець яе ("Маналёг Рамуальда Жакоўскага", ст. 46):

> Гэта лёс. Вы ня верце, што гэта стыхія.
> Пэўна-ж, трэба камусьці
> вось так расказаць пра жывых,
> Каб пачулі глухія, відушчымі сталі сьляпыя
> Дый убачылі - зоркі ўзыходзяць
> таксама й для іх.
> Вось і ўсё - маланка ля скроні шугае.
> Перадайце наступніку: хай у народзе сваім
> Праз стагодзьдзе зімы, на Сьвята мой
> твар адшукае,
> І мы - вочы ў вочы шчасьлівыя -
> стрэнемся зь ім!

Паэзія - гэта як каханьне, як тайна.

*Валянтына ЯКІМОВІЧ*

# СЬВ. ПАМЯЦІ АЛЁША ГУРЫН
## 12.II.1924 - 27.VIII.2002



Алёшу Гурына, які жыў у Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзі, ведала ўся беларуская грамада. Ён быў ейным актыўным сябрам, браў удзел у грамадзкім і рэлігійным жыцьці. Алёша належаў да камітэту, што кіруе курортным селішчам Бэлер-Менск, увесь час сьпяваў у царкоўным хоры, а некалі і ў сьвецкім, калі той быў. У Алёшы быў добры голас, бас прыемнага тэмбру.

Сьмерць неспадзявана забрала яго ад сям'і. У глыбокім смутку засталіся жонка Маруся, дочкі Ліля й Рыта зь сем'ямі, сястра Надзя Сіцько з мужам Мікалаем ды ўсе далейшыя сваякі, сябры й супрацоўнікі.

Аляксей нарадзіўся ў багатай сям'і Віктара й Марыі Гурынаў у Антопалі на Берасьцейшчыне. Гэтае мястэчка (цяпер гарадзкі пасёлак) да верасьня 1939-га году было пад Польшчаю. Бацькі мелі вялікую зямельную гаспадарку. Частка Гурынавай зямлі была пад забудовамі мястэчка, за што сям'я Гурынаў атрымоўвала плату. Пасьля прыходу Саветаў Гурынаў "раскулачылі", маёмасьць разграбілі. У часе нямецкае акупацыі (1941-44 г.г.) Антопаль знаходзіўся пад украінскай адміністрацыяй.

Яшчэ пры Польшчы Алёша пайшоў у пінскую гандлёвую школу, якую скончыў у 1942-м годзе. У 1944-м годзе Гурыны эвакуаваліся ў Нямеччыну, апрача старэйшага жанатага сына й замужняй дачкі. Гэтыя апошнія апынуліся пасьля ў Польшчы, дзе й памерлі. Па вайне сям'я Гурынаў жыла ў ДП-лягеры. Там памёр Алёшаў бацька. А маці з сынам і дачкою эмігравалі ў 1950-м годзе ў Злучаныя Штаты.

Яшчэ ў Нямеччыне Алёша пазнаёміўся з Марусяй Дульскай. Па прыбыцьці ў Амэрыку, у Саўт-Рывэр, яны пажаніліся, сталіся на новым месцы, разам зь іншымі суродзічамі, актыўнымі й шанаванымі ўдзельнікамі свайго рэлігійна-грамадзкага асяродку. У ім цяпер будзе балюча нехапаць Алёшы Гурына.

Абрад пахаваньня выканаў настацель царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай а. Стаўрас. Пагодным летнім днём на саўтрывэрскім Беларускім могілкігу сям'я й шматлікія сябры разьвіталіся зь нябожчыкам ускладаньнем кветак на ягоную дамавіну.

Вечная яму памяць.

# НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

**INDEPENDENT BELARUS. Domestic Determinants, Regional Dynamics, and Implications for the West.** Edited by Margarita M. Balmaceda, James I. Clem, Lisbeth L. Tarlow. Harvard University Press, 2002. 483 p.

**"НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ. Нутраныя фактары, рэгіянальная дынаміка й магчымыя вынікі для Захаду"** - пад гэткім загалоўкам зьмешчаныя аналізы самых розных аспэктаў сучаснае Беларусі. У кнізе артыкулы 18 аўтараў зь Беларусі, Расеі, Украіны, Летувы, Польшчы, Нямеччыны, Канады ды Злучаных Штатаў. Бальшыня аўтараў - удзельнікі праведзенае ў Гарвардзкім унівэрсытэце ў травені 1999-га году канфэрэнцыі, прысьвечанае Беларусі. Некаторыя матэрыялы былі замоўленыя дадаткова ў спэцыялістаў збоку.

Васемнаццаць дакладаў разьмешчаныя па тэмах: нутраная палітыка, эканоміка, расейска-беларускія дачыненьні, Беларусь і эўрапейская бясьпека, беларускі выклік Захаду. У канцы кнігі зьмешчаны тэкст (па-беларуску й па-ангельску) Хартыі-97.

Дакладнейшае ўяўленьне пра зьмест гэтага вартаснага тому можна атрымаць з загалоўкаў артыкулаў: "Беларуская грамадзкая думка й саюз з Расеяй"; "Апазыцыя ў Беларусі: гісторыя, патэнцыял і пэрспэктывы"; "Фэнамэн Лукашэнкі"; "Беларуская эканоміка: ці здольная яна выжыць?"; "Беларусь як транзытны шлях: з гледзішча нутраной і замежнай палітыкі"; "Лукашэнкава роля ў расейскай палітыцы"; "Пытаньні бясьпекі ў будучыні Беларусі"; "Беларускі фактар у эўрапейскай палітыцы Ўкраіны"; "Беларусь - дзіўная суседка Польшчы"; ""Роля міжнародных арганізацыяў у Беларусі". "Дылема беларускай палітыкі (ЗША)".

Кожны з артыкулаў грунтоўна ўдакумэнтаваны, падмацаваны спасылкамі, статыстыкай, сацыялягічнымі апытаньнямі. Гэты вартасны зборнік станецца аўтарытэтным даведнікам для кожнага, хто зажадае ўвайсьці ў курс праблемаў сучаснае Беларусі ды ейнага складанага міжнароднага становішча.

Кніжку можна замовіць, напісаўшы на адрас: *HURI Publications, Harvard Ukrainian Research Institute, 1583 Massachussetts Ave., Cambridge, MA 02138.*

**CONTEMPORARY BELARUS: BETWEEN DEMOCRACY AND DICTATORSHIP.**

**"Сучасная Беларусь: паміж дэмакратыяй і дыктатурай"** - назва зборніка дакладаў, прачытаных на міжнароднай канфэрэнцыі, што адбылася ва ўнівэрсытэтце ангельскага гораду Бат (Bath) у 2000-м годзе. Кніжка пойдзе ў продаж 11-га кастрычніка сёлета. Яе можна будзе набыць праз інтэрнэтную старонку выдавецтва Routledge: ***https://ecommerce.tandf.co.uk/catalogue/*** (ISBN=07007 16 130) або праз *Amazon.com.*

*(ЯЗ)*

# СЬВ. ПАМЯЦІ ЛЕАНАРД НОРЫК
## 4.7.1929 - 28.9.2002

Пасьля цяжкай хваробы адыйшоў ад нас адзін з актыўных і даўгагадовых сябраў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Выказваем спачуваньні родным й блізкім памерлага.

**Рэдакцыя часапісу *"Беларускі Гістарычны Агляд"* шчыра дзякуе ўсім, хто склаў ахвяраваньні на выданьне так патрэбнага нацыянальнага навуковага перыёдыку па беларускай гісторыі. Мы ўдзячныя за Вашую дапамогу і падтрымку!**

**20-га кастрычніка ў грамадзкай залі Катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на *401 Atlantic Ave.* ў Брукліне адбудзецца БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ адразу пасьля Сьв. Літургіі, якая пачнецца а 10-й гадзіне раніцы. Запрашаем усіх узяць удзел у фэстывалі.**

***Царкоўная ўправа***

**Калі Вы хочаце набыць беларускі пераклад БІБЛІІ для сваіх знаёмых ці сваякоў у БЕЛАРУСІ, калі ласка, зьвяртайцеся да СЯРГЕЯ СЁМУХІ. Тэлефон ў Менску 8-029-613-1379, электронная пошта: *serdgio_sema@mail.ru***

**Царква Сьв. Кірылы Тураўскага, якая знаходзіцца па адрасу *104-29 Atlantic Ave. Richmond Hill* у Квіньсе, запрашае 3-га лістапада ўсіх прыхажанаў і вернікаў на ўрачыстае сьвяткаваньне, прысьвечанае 30-годзьдзю першае службы. Сьвяточная Літургія пачнецца а 10-й гадзіне раніцы. Пасьля службы ў царкоўнай залі адбудзецца супольны абед з дакладам і выступамі прамоўцаў. Даезд да царквы цягнікамі падземкі A ці J да прыпынку *104th Street*, альбо аўтобусам да прыпынку з такою-ж назваю.**

***Царкоўная ўправа***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| М. Грэбень | 70 | К. Муха | 30 |
| І. Сурвілла | 60 | У. Пелеса | 30 |
| М. Баяроўскі | 50 | Б. і Т. Русак | 30 |
| М. Грэбень (вясною) | 50 | В. Юдзін | 30 |
| К. Маталыцкі | 50 | М. Гурын | 20 |

**Усім шчыры дзякуй!**



**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**
**Падпіска $30 на год.**

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.**
**Subscription $30 yearly**

**Рэдагуе калегія.**
Адказны рэдактар
**Марат Клакоцкі**
Тэхнічны рэдактар
**Мікола Шыдлоўскі**
Падпіска
**Сяргей Трыгубовіч**

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*



**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветная сеціва:**
www.bielarus.org